№ 20 (809) 29 мая 2013

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Беларускае Эльдарада

Беларускае Палессе хавае **вялікія багацці**, і краіна падступаецца да іх здабычы.

Ёсць такі стэрэатып, што беларускія землі не надта багатыя на карысныя выкапні. Маўляў, ёсць толькі соль ды торф, і больш нічога.

А тут урад абвяшчае аб пачатку амбіцыйнага праекта па адкрыцці прамысловага парка «Палессе-Лельчыцы». Мэта – здабыча карысных выкапняў.

Чаго там толькі няма! Буры вугаль, гаручыя сланцы, будаўнічы ды абліцовачны камень, гліна, крэйда, гіпс, рэдкія металы. Акадэмік Радзім Гарэцкі кажа, што нават золата, бурштын ды ўран ёсць у невялікай колькасці.

Сапраўднае беларускае Эльдарада!

У самыя глухія куткі краіны пройдзе чыгунка, якой злучаць памежныя Глушкавічы і Ельск.

Разам з тым, застаюцца і вялікія пытанні: як вырашыць праблему падземных водаў і ці не стане прамысловы парк прычынай экалагічнай катастрофы цэлага рэгіёна.

**Аб прамысловым парку «Палессе-Лельчыцы» — старонка 3.**




### Тэма

**Дзе працуюць дзеці беларускіх чыноўнікаў?**

Ярмошын, Латушка, Камянкоў, Капская і іншыя. **Старонкі 6—7.**



### Гіпермаркет

**Наеліся арэшкаў**

Хлопец зачарпнуў арэхаў у гіпермаркеце і з'еў. Ахоўнікі пры затрыманні зламалі шыю ягонаму сябру. **Старонка 5.**



### Гутарка

**Зісер: Я заўсёды быў перакананы, што ўсё атрымаецца**

«Зразумела, я за дэмакратычную Беларусь». **Старонка 9.**



### Навука

**Камета Неўскага: самая яркая ў XXI стагоддзі**

Сярод адкрывальнікаў каметы — беларус. **Старонка 11.**



### Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# «Пахавайце мой прах пад яблыняй...»

Актывістка дапамогі палітвязням у 23 гады **згарэла ад раку.**

Эльміра Левандоўская памерла 26 мая. Многія з тых, хто браў удзел у маўклівых акцыях пратэсту 2011, ведалі яе як Дамініку. Яна была адной з тых, хто штодня быў каля жодзінскай турмы або ля Акрэсціна, пакуль там адбывалі арышт палітычныя.

Група маладых людзей тады арганізавала забеспячэнне перадачамі асуджаных удзельнікаў акцый. Яна была там з раніцы і да вечара. Яе многія запомнілі, але не ўсе ведалі, што яна моцна хварэла.

Эльміра захварэла ў дзяцінстве: у яе знайшлі рак пячонкі. І дактары прадказвалі, што пражыве не больш за шэсць месяцаў. Але дзяўчынка жыла насуперак цяжкасцям.

«Дзе б яна ні з’яўлялася, усім дапамагала, — расказвае блізкі сябра Эльміры Павел. — А ёй дапамагчы было немагчыма».

Яна вучылася на хімфаку — марыла быць эколагам. «Адначасова хацела стаць кухарам: яна неверагодна добра гатавала». І ўладкавалася кухарам у адну з мінскіх кавярняў.

Год таму дзяўчыне пачалі рабіць хіміятэрапію. Але безвынікова. «Кажа: «Я стамілася...» Яна забараняла нам прыходзіць у бальніцу, каб яе не бачылі ў бездапаможным стане», — кажа Павел.

Восенню ёй станавілася ўсё горш. «Казала: «Не турбуйцеся, я ўзімку не памру, бо людзям будзе цяжка капаць... Яна памірала, а хвалявалася за людзей!»

Павел кажа, што дзяўчына ляжала ў рэанімацыі ва Уздзе. А там лячылі і алкаголікаў. І стан Эльміры на мінулым тыдні палепшаў. Але ў пятніцу адзін з пацыентаў напужаў дзяўчыну сваімі крыкамі. І яе стан пачаў пагаршацца. Не стала Левандоўскай ў нядзелю, 26 мая, а 15-й гадзіне.



«Яна перадавала рэчы ў дзіцячыя дамы, жывёлам дапамагала... Яна хацела, каб яе крэміравалі, і прасіла, каб мы прасачылі за гэтым. А мы разумелі, што нам не дазволяць, прасілі, каб яна запіску пакінула. Спачатку хацела, каб прах развеялі. А пасля перадумала. «Закапайце прах пад яблыняй, каб нейкая карысць была», — прасіла. Але пахавалі яе без крэмацыі...»

**Сяргей Макарэвіч**




## Часопіс Arche аднаўляе выхад

Валер Булгакаў **вярнуўся ў краіну.**

«Мы атрымалі дакументы аб перарэгістрацыі раніцай у пятніцу», — паведаміў выканаўца абавязкаў галоўнага рэдактара кандыдат гістарычных навук Алесь Пашкевіч.

Ён замяніў на пасадзе Валера Булгакава, калі над апошнім навісла пагроза крымінальнай справы. Раней часопісу чатыры разы адмаўлялі ў перарэгістрацыі.

«Галоўным рэдактарам ізноў будзе Валер Булгакаў, я — намеснікам», — адзначыў Пашкевіч.

Новы нумар часопіса будзе адпраўлены ў друк неадкладна. Ён будзе прысвечаны гісторыі Другой сусветнай вайны. Arche не выходзіў з чэрвеня 2012, і да пачатку ліпеня абавязкова мусіць з’явіцца чарговы выпуск.

«Нумары гэты час мы рыхтавалі, і зараз яны будуць друкавацца паспешным парадкам. Цяпер важна аднавіць ранейшую штомесячную перыядычнасць. Будзем старацца вярнуцца ў падпісныя каталогі», — сказаў Пашкевіч.

Сёлета, дарэчы, часопіс адзначыць 15-годдзе.

**СМ**

**Дзяніс Раманюк. Беларусь сінявокая**

Да 15 чэрвеня ў Нацыянальным мастацкім музеі (вул. Леніна, 20) працуе выстава Дзяніса Раманюка «Беларусь сінявокая». Зробленыя з зямлі, вады і нават з паветра 305 фотаздымкаў альбома, 25 з якіх экспануюцца на выставе, паказваюць вядомыя і схаваныя ад погляду чалавека азёры і рэкі.




**Апытанне на nn.by**

**Як, па-Вашаму, хрысціяне і мусульмане ў XXI ст. будуць найбольш ваяваць ці мірна ўжывацца?**

| | | |
|---|---|---|
| Будуць ваяваць | 349 | 47% |
| Будуць ужывацца | 57 | 8% |
| У Беларусі будзе мірна, а вось на цывілізацыйных разломах будзе горача | 219 | 30% |
| Капіталізм і глабалізацыя прывядуць да згасання ісламскага фанатызму | 116 | 16% |

**Усяго прагаласавала 741.**

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

# Дык падпісвайся!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 804-12-31, (029) 681-77-91, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад’езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15750 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18911 руб./месяц.

## Сцісла

**Бяляцкага пераабралі**

Беларускі праваабаронца-палітвязень Алесь Бяляцкі пераабраны віцэ-прэзідэнтам Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека (FIDH) на 38-м кангрэсе FIDH у Стамбуле (Турцыя).

**У цэнтральны апарат Следчага камітэта**

... перададзена справа аб смерці пацыенткі «Экамедсэрвіса». На сёння пад вартай знаходзяцца дырэктар «Экамедсэрвіса» і доктар-анестэзіёлаг.

**На Ланскую патрацілі 264 тысячы**

Вядома, еўра, а не рублёў. Гэтую лічбу агучыў прадзюсар спявачкі Дзмітрый Баранаў. На «Еўрабачанні» Ланская заняла 16-е месца.

**На смартфонах-андроідах з’явіліся «Беларускія казкі»**

Каб яе ўсталяваць, трэба зайсці ў Google Play і набраць у пошуку «Белорусские сказки». У тэкставым выглядзе даступна 18 казак. Большасць з іх узятыя з праекта «Народныя казкі для дзетак», выкананым ЮНІСЕФ.

**Канфіскавалі 500 параў абутку**

... у адной з крамаў Бабруйска. Як паведамляе прэс-цэнтр Міністэрства па падатках і зборах, у магазіне прадпрыемства рэалізацыя названага абутку ажыццяўлялася без наяўнасці дакументаў, што пацвярджаюць яго набыццё (паступленне).

**Беларусь адкрые пасольства ў Эфіопіі**

Міністэрству фінансаў даручана ажыццяўляць фінансаванне расходаў на адкрыццё і ўтрыманне пасольства ў Эфіопіі.

**Рэкамендуем**

### «Прышпільная» мова,

або Небяспека сыходзіць ад гарачых прыхільнікаў беларушчыны Піша Алег Аблажэй.

### «Хацеў пайсці ў міліцыю, а стаў таваразнаўцам»

Відэапытанне.

**Глядзіце і чытайце на nn.by.**

**Самае чытанае на nn.by за 22 — 28 мая 2013**

1 Тэрарысты ў Лондане пасеклі салдата мачэтэ з крыкамі «Алах акбар!»

2 «Прышпільная» мова, або Небяспека ад гарачых прыхільнікаў беларушчыны

3 Грузавік раздушыў хуткую дапамогу пад Віцебскам: загінулі чатыры доктаркі

4 Хлопцы пад’ядалі арэшкі ў «Кароне». Пры затрыманні аднаму зламалі хрыбет

5 Аўтапрабег па-расійску: у порназоркі Сашы Грэй ужо ў Хабараўску зламалася «Лада Каліна»

6 У Рагачове абяцаюць узнагароду за данос на аўтара графіці «Хопіць бухаць»

7 Дзяўчына, што знікла пры нявысветленых абставінах у Мінску, знойдзена

8 На новай рэзідэнцыі Лукашэнкі надпіс «Палац Незалежнасці» будзе па-расейску

9 Юрый Зісер адказаў на вострыя пытанні чытачоў NN.BY

10 Студэнту-беларусу адмовілі ў польскім грамадзянстве з «меркаванняў бяспекі»

# Ці ператворацца Лельчыцы ў беларускае Эльдарада

Беларускае Палессе хавае вялікія **багацці**, і краіна падступаецца да іх здабычы.




**Лельчыцы**

Райцэнтр у Гомельскай вобласці на рацэ Убарць. Насельніцтва — 8,9 тысячы жыхароў. Знаходзіцца за 67 км ад чыгуначнай станцыі Ельск.

17 мая на Гомельскім эканамічным форуме была падпісаная дамова аб развіцці прамысловага парка «Палессе-Лельчыцы», мэта якога — здабыча карысных выкапняў, а таксама будаўніцтва Новай Палескай чыгункі.

Праект падпісалі намеснік дырэктара ТАА «Трайпл» Раман Шырма, галоўны інжынер Беларускай чыгункі Валерый Шубадзёраў, намеснік міністра архітэктуры і будаўніцтва Дзмітрый Семянкевіч і старшыня Гомельскага аблвыканкама Уладзімір Дворнік. Сума дамовы не агучваецца. «Трайпл», нагадаем, — гэта кампанія беларускага мультымільянера Чыжа, які займаецца нафтай, будаўніцтвам, спортам і рэстаранным бізнэсам.

Дзяржаўнае агенцтва БелТА захоплена напісала, што прамысловы парк ператворыць рэгіён у беларускі Рур, праводзячы паралелі з сыравіннай базай Германіі.

Вядома, што ў парку збіраюцца здабываць буры вугаль, будаўнічы камень, будаўнічы пясок, крэйду, гліну, торф, сапрапель, калійную соль. Парк ахопіць пяць раёнаў краіны: Лельчыцкі, Жыткавіцкі, Петрыкаўскі, Ельскі і Мазырскі. Гэта прыкладна трацiна тэрыторыі Гомельскай вобласці. Але ў гэтым пераліку толькі калійныя солі на сёння здольныя даваць вялікі прыбытак. Астатняга дабра нямала і ў іншых рэгіёнах Беларусі, дый у іншых краінах.

### Першы раз пасля цара

Палеская чыгунка будавалася ў 1882 — 1907 гадах, яна злучыла Бранск і Гомель з Брэстам. Пры цару, як і ўсе чыгункі Беларусі. Цяпер можа пачацца новы этап. Чыгунка мае пралегчы па маршруце «Глушкавічы — Лельчыцы — Міхалкі». Гэта 121 кіламетр дарогі. Будаўніцтвам зоймецца «Трайпл».

Доктар геаграфічных навук, загадчык лабараторыі аптымізацыі геасістэм Інстытута прыродакарыстання Акадэміі навук Валерый Хоміч кажа, што тэрыторыя будучага прамысловага парка «Палессе-Лельчыцы» сапраўды мае найбольш карысных выкапняў, чым дзе на тэрыторыі Беларусі.

Паводле афіцыйных лічбаў, на тэрыторыі парка запасы бурага вугалю складаюць 250 мільёнаў тон, гаручых сланцаў — 2,7 мільярда тон, каменнай солі — 500 мільёнаў тон, гіпсу — 260 мільёнаў, каалінаў (белая гліна, сыравіна для парцаляны) — 3 мільёны, гліны — 70 мільёнаў кубічных метраў. Лічбы нібыта даволі ўнушальныя.

### Вугаль-то ёсць, але як асушыць?

«Бурага вугалю дакладна вядома, што ёсць 75 мільёнаў тон. Знаходзіцца радовішча каля ракі Убарць. Гэта няшмат. Магчыма, яшчэ ёсць неразведаныя, — кажа Валерый Хоміч. — Сланцы ёсць амаль паўсюды, невялікія праслойкі. Што датычыць каменю, то сёння ён здабываецца ў Глушкавічах, з яго потым робіцца шчабёнка. У савецкія часы яшчэ быў кар'ер «Надзея», дзе здабывалі камяні для абліцоўкі. Праўда, потым яго закінулі».

«Канечне, мясціны балоцістыя, небяспека праз гэта павялічваецца. Як і затраты. Каб адпампоўваць ваду, патрэбныя вялікія грошы на электраэнергію. Такія затраты могуць у два разы павялічыць кошт сыравіны, што здабываецца. Наколькі мне вядома, для здабычы спачатку трэба выкапаць кар'ер, а ўжо там рабіць шахту», — гаворыць навукоўца.

Акрамя таго, на тэрыторыі прампарка «Палессе-Лельчыцы» разведана радовішча рэдкіх відаў сыравіны, такіх як берылій, цырконій, высокамінералізаваныя прамысловыя расолы. Вось гэта ўжо цікавей, бо попыт на рэдкія металы ў свеце расце разам з развіццём электронікі.

Разам з тым узнікае пытанне, чаму гэтыя мясціны не сталі распрацоўваць раней. Адказ — не самыя простыя ўмовы працы. Вельмі радыкальнае меркаванне адносна будаўніцтва парка мае член-карэспандэнт Акадэміі навук, доктар геолага-мінералагічных навук Анатоль Кудзельскі.

### «Ідыятызм!»

«Краіна непалоханых ідыётаў! — выгукае навуковец, калі чуе пра «Палессе-Лельчыцы». — Гэты прамысловы парк проста немагчыма зрабіць. Для гэтага трэба асушаць воды на 200—300 метраў. Трэба знішчаць палескую прыроду. Калі мы на гэта пойдзем, то адгукнецца і ва Украіне. Гэта проста немагчыма. І гэта ўсё цудоўна ведае прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч, але маўчыць».

Вядома, што Гомельшчына — самы багаты рэгіён Беларусі на карысныя выкапні, але чаму так сталася? «Тут вялікая геалагічная ўпадзіна, якая мяжуе з украінскім крышталічным масівам. Шмат што зносілася, вымывалася ў гэтую ўпадзіну. Напрыклад, рэдкія землі, берыл. На месцы ж гэтай упадзіны некалі было мора, таму ўтварылася соль. Пасля мора былі балоты, што з'яўляецца спрыяльным асяроддзем для ўтварэння торфу, бурага вугалю», — тлумачыць Валерый Хоміч.

Як бачым, адносна будучыні прампарка «Палессе — Лельчыцы» маюцца вельмі розныя меркаванні. Навукоўцы пагаджаюцца, што разведвальныя працы праведзеныя яшчэ недастаткова, каб рабіць далекасяжныя вывады.

**Зміцер Панкавец**

# Радзім Гарэцкі: **Добра, што звярнулі ўвагу на гэты рэгіён**

Славуты геолаг, член-карэспандэнт Акадэміі навук **Радзім Гарэцкі** адказаў на некалькі пытанняў «Нашай Нівы».

**«НН»: Беларускі Рур пад Лельчыцамі — гэта рэальнасць?**

**Радзім Гарэцкі:** Дакладна сказаць не можам. Там ёсць вялікія паклады бурага вугалю, соляў, рассыпныя радовішчы (горныя пароды, мінералы). На паўднёвай мяжы ёсць крэйда і мергель. А на поўначы рэгіёна можа быць бурштын. Пры пэўных абставінах гэтая мясціна сапраўды зможа ператварыцца ў «беларускі Рур».

**«НН»: А чаму дакладна не можаце сказаць? Кепска даследавана?**

**РГ:** Слабавата. Геалагічныя здымкі праводзіліся, але не настолькі дасканалыя, як хацелася б. Яшчэ дакладна не можам сказаць, якія аб'ёмы там розных карысных выкапняў. Вельмі добра, што на гэтыя мясціны звярнулі ўвагу. Пры спрыяльных умовах гэта можа сябе апраўдаць.

**«НН»: Галоўнай будзе здабыча вугалю?**

**РГ:** Я вось якраз гэтага і баюся, што ўсё будзе сканцэнтравана на вугалі. А там жа шмат усяго, апроч вугалю. Нават уран ёсць! Трошку золата маецца. Патрэбная комплексная распрацоўка мясцін, а не аднаго толькі выкапня, як было ў нас у СССР. Здабывалі, скажам, адзін вугаль, а ўсё астатняе проста выкідвалі.

**«НН»: Ці якасны беларускі буры вугаль?**

**РГ:** Ён ва ўсім свеце не вельмі якасны. Канечне, той вугаль, які здабываецца ў Данбасе, нашмат лепшы. Але і наш някепскі. Ён знаходзіцца недзе ў прамежкавым стане паміж каменным вугалем і торфам. Шмат чаго можна рабіць з нашага вугалю — і алівы, і вадкае паліва.

**«НН»: Гэтага вугалю сапраўды так шмат?**

**РГ:** Хапае, але яшчэ раз паўтаруся, што дакладна не падлічана. Тут яшчэ варта адзначыць складаныя ўмовы працы. Гэта балоты. Гідрагеалогія будзе нялёгкай, як будуць паводзіць сябе падземныя воды. Шмат пытанняў, ці гэта будзе кар'ер, ці шахта. Калі шахта, ці гэта будзе нахільная, ці вертыкальная. Што рабіць з вадой. Я быў на падобных радовішчах у Польшчы і Германіі, дык там адпампоўваюць ваду ў рэчкі ці некуды яшчэ. У Мікашэвічах не так шмат вады, але там яе таксама адпампоўваюць. Трэба падлічыць, ці не будзе даражэй качаць гэтую ваду (аграмадныя грошы за электрычнасць) за тое, што здабудзецца. Ёсць такі панятак «ТЭА» (тэхнічна-эканамічнае абгрунтаванне), ад яго правядзення будзе шмат залежыць. У нас жа часта бывае, што спачатку робяць, а потым падлічваюць.

**«НН»: А што датычыць солі, яе там больш, чым у Салігорску?**

**РГ:** Соль і калійная, і харчовая ёсць у Тураўскай дэпрэсіі (паніжэнні зямной паверхні). Таксама соль ёсць на выступе Мікашэвічы — Жыткавічы. Туды вока ўжо паклаў расійскі алігарх Гуцэрыеў. Цяжка сказаць, ці больш яе, чым у Салігорску, але яна дакладна ёсць. А калійныя ўгнаенні — гэта ж трацiна валютнай выручкі краіны.

**«НН»: У Беларусі ёсць сланцавы газ?**

**РГ:** На выступе Жыткавічы — Мікашэвічы дакладна маюцца сланцы. Там пластамі паміж сланцамі, аргалітамі, пясочкам можа быць і сланцавы газ. Але ж яго вельмі цяжка здабываць. Толькі амерыканцы пакуль маюць неабходную тэхналогію. Нам, можа быць, яшчэ ранавата.

**«НН»: А ці глыбока знаходзяцца нашы карысныя выкапні?**

**РГ:** У Глушкавічах граніт, напрыклад, на паверхні. Вугаль залягае дзесці на глыбіні 50—250 метраў. Калі ўжо на глыбіні 500 метраў, то здабываць яго вельмі цяжка.

**Гутарыў ЗП**



**Радзім Гарэцкі**

Нарадзіўся ў 1928 у Мінску. У 1930-я разам з сям'ёй знаходзіўся ў высылцы ў Расеі. Пасля зняцця абвінавачванняў з бацькі, вядомага вучонага Гаўрылы Гарэцкага, скончыў Маскоўскі нафтавы інстытут. У 1952 прыняты ў Геалагічны інстытут Акадэміі навук СССР, дзе працаваў да вяртання сям'і ў Беларусь (1971).У 1972 абраны членам-карэспандэнтам АН БССР. У 1977 абраны правадзейным членам АН БССР і прызначаны дырэктарам Інстытута геахіміі і геафізікі АН БССР. Ад 1992 да 1997 быў віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук Беларусі. Ад 1993 да 2001 з'яўляўся прэзідэнтам «Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

# Сям’я алкаголікаў тэрарызуе пад’езд у Серабранцы

Дом па адрасе Гараўца, 2 месціцца насупраць аўтавакзала «Усходні» і гіпермаркета «Гіпа» ў Мінску, на скрыжаванні праспекта Ракасоўскага і вуліцы Ванеева. Ён акружаны морам зеляніны, а арка дзевяціпавярховіка надзейна закрывае пад’езды і вялікі двор ад шуму загружаных магістраляў.

Аднак жыхары пад’езда №4 ужо даўно не ведаюць спакойнага жыцця. Цягам некалькіх апошніх гадоў уладальнікі 42 кватэр пакутуюць ад сям’і алкаголікаў. І цярпенне жыхароў падышло да канца — 21 мая яны правялі агульны сход, каб паспрабаваць вырашыць, што рабіць далей, сабралася 20 чалавек.

У лісце «Нашай Ніве» адзін з жыхароў пад’езда напісаў, што сям’я «у любы час сутак учыняе п’яныя дэбошы, п’юць на дзіцячай пляцоўцы і лаюцца матам. А апошнім часам яны пачалі часта гадзіць у пад’ездзе — спраўляюць там натуральныя патрэбы: «вялікія» і «маленькія».

«Гэта сям’я раней была нармальная. Я жыву з імі на адной пляцоўцы некалькі дзясяткаў гадоў, — расказвае жыхар чацвёртага паверха Пятро Пятровіч. — Цяпер у кватэры прапісаны тры чалавекі: Жора, яго дачка Іра і сын Сяргей. Усе яны злоўжываюць алкаголем. Жора адзіны, хто працуе — дзеці атрымліваюць пенсіі па інваліднасці. Аднак яны больш-менш ціхія. А жыцця няма праз іх частых гасцей, таксама алкаголікаў.

Да Ірыны пастаянна прыходзіць яе сужыцель-палюбоўнік Віталь. Сам ён з гэтага ж дома, з 9 пад’езда. Яго бацькі выгналі з хаты, і цяпер ён перабіваецца ў Іры ды сяброў прыводзіць».

### Ледзь не згарэлі

Па словах жыхароў пад’езда, жыццё з такімі суседзямі — не цукар.

«Я аднойчы адчуў стойкі пах дыму — і хутчэй да суседзяў. Адмыкаюць дзверы — уваходныя на пляцоўку адчыняюцца любым ключом, а дзверы ў кватэру ніколі не зачыненыя — у іх там дыму! А яны п’яныя тлумачаць, што «бычок» ад цыгарэты не патушылі ды ў сметніцу кінулі, — прыгадаў Андрэй з 5 паверха. — Мурашы ад іх лезуць рудыя. Мы ўсе сродкі паспрабавалі, плінтусы ўшчыльнялі, але не дапамагае».

Аднак больш за ўсё жыхароў пад’езда, які ператварыўся ў прытон і грамадскую прыбіральню, абурае бяздзейнасць міліцыі і органаў ЖКГ.

«Каб яны за кватэру не плацілі — можна было б выселіць іх, аднак квартплату ўносяць стабільна. Ды гэта не яны ў асноўным турбуюць, а іх госці», — кажуць жыхары.

«Я прасіў Жору, каб ён не пускаў гэтага Віталіка ў дом. Але ён кажа: «Гэта Ірына справа. Як яна вырашыць, так і будзе», — сумна расказвае Пятро Пятровіч.

Па словах жыхароў, участковы міліцыянт не надта дапамагае ім, кажа, што нічога не можа зрабіць з Віталікам, бо ён інвалід другой групы і яго «нельга чапаць». Камунальшчыкі, паводле жыхароў, дык увогуле дасылаюць простыя адпіскі.

«Я звярнуўся на гарачую лінію ЖРЭА Ленінскага раёна, бо ў кватэры невыносна крычалі — і паскардзіўся на шум. І вось мне прыйшоў адказ за подпісам дырэктара Каралькова. У ім гаворыцца, што наш ЖЭС апытаў жыхароў суседніх кватэраў, але факты шуму не пацвердзілі. Я сам апытаў суседзяў — ні да каго ніхто не прыходзіў, ні пра што не пыталі», — Андрэй дэманструе адказ ад ЖРЭА.

На жаль, сход жыхароў пад’езда №4 прайшоў не зусім паспяхова — усе паабураліся «свежымі» кучамі ў ліфце і ў вестыбюлі, а таксама п’яным Сяргеем, які спаў у ліфце побач з імі і не даваў дзвярам ліфта зачыніцца. Але канкрэтныя крокі засталіся няўцямныя: вырашылі зладзіць яшчэ адзін сход і прывесці на яго ўчастковага, збіраць подпісы і дасылаць калектыўны зварот у пракуратуру.



Жыхар дома Андрэй дэманструе адказ ЖРЭА.



Той самы пад'езд.

### «Выклікаюць, але не падпісваюць пратакол»

Участковы міліцыянт Аляксандр Мазавец ніяк не пракаментаваў сітуацыю з жыхарамі кватэры № 124. Нічога «НН» не паведамілі і ў РУУС Ленінскага раёна.

«А што мы можам рабіць? На шум у нас вельмі многа скаргаў. Калі скардзяцца ў першы раз, супрацоўнік прыходзіць на месца, тлумачыць правілы карыстання жылымі памяшканнямі. Калі працягваюць шумець, тады апытваем жыхароў і складаем пратакол аб адміністратыўным парушэнні», — расказаў карэспандэнту «НН» Сяргей Кучынскі, дырэктар ЖЭУ-51, якое займаецца эксплуатацыяй дома па вуліцы Гараўца.

Аднак Кучынскі абвяргае, што ЖРЭА прысылала «адпіскі» і не апытвала жыхароў. «Пра кватэру 124, зразумела, мы ведаем. Нядаўна паступіла новая скарга, і майстар участка пойдзе разбірацца з сітуацыяй. У мінулы раз прыходзілі туды ў лютым, ніякіх парушэнняў не знайшлі. Людзі выклікаюць майстра па шуме, але пасля апытання адмаўляюцца падпісваць пратакол», — расказаў ён.

**Кірыла Хілько**

# Наеліся арэшкаў

**Хлопец зачарпнуў арэхаў у гіпермаркеце і з'еў. Ахоўнікі пры затрыманні зламалі шыю ягонаму сябру.**

Разбіты твар, страсенне мозгу, пералом асцюкаватага атожылка пазванка шыйнага аддзела хрыбта. Яшчэ трохі, і была б смерць.

Аляксандр запісаў сваю гісторыю на відэа і размясціў у інтэрнэце. Паднялася хваля абурэння: ахова чалавека скалечыла. «Не супермаркет, а гестапа нейкае», — пісалі каментатары на сайце «Нашай Нівы». Заклікалі: «Кароне» — байкот!».

Але мы разабраліся ў гісторыі, і ўсё аказалася зусім інакш.

### Гэта ж колькі трэба есці!

Двое сяброў 9 Мая адправіліся ў цэнтр Мінска глядзець на салют. «А пасля паехалі ў «Карону», — расказвае Дзяніс, сябар Аляксандра. — Мы нават спіртнога не бралі, толькі нешта з прадуктаў: каўбаса, папіць. Ну і па дарозе ў аддзеле сухафруктаў я запусціў руку ў арэшкі, зачарпнуў і з'еў».

На касе таварышаў чакалі ахоўнікі. Аляксандру сказалі, што да яго прэтэнзій няма і ён свабодны. А Дзяніса прапанавалі прайсці з аховай. Але Саша вырашыў сябра ў бядзе не пакідаць.

«Мяне павялі наперад. Я паварочваюся, а Саню ўжо круцяць. Іх раззлавала, што ён пайшоў за намі», — сцвярджае хлопец.

Па яго словах, Аляксандра пяцёрка ахоўнікаў зацягнула ў службовае памяшканне, начапіла наручнікі і збіла.

Дзяніс усё гэта бачыў праз адчыненыя дзверы. Ён і «хуткую дапамогу» выклікаў, калі кроў пацякла. Пасля гэтага і на яго самага таксама начапілі кайданкі. І выклікалі міліцыю.

Медыкі настойвалі на шпіталізацыі. Міліцыянты ж павезлі хлопца ў аддзяленне. Але ў Фрунзенскім РУУСе разабраліся, што з хлопцам бяда, і адправілі ў бальніцу.

Дзяніса ж завезлі ў міліцыю. «У пратаколе напісалі, што я 300 грамаў арэшкаў з'еў. Але гэта ж колькі трэба есці! Ну няхай 50 грамаў узяў. Я пра гэта і дапісаў у пратаколе».

Пазней Дзянісу патэлефанавалі з «Кароны» і прапанавалі аплаціць з'едзенае. «Я разумеў, што калі да суда аплачу, то аўтаматычна прызнаю прэтэнзіі. Але мяне напужалі, што давядзецца аплачваць адвакацкія паслугі і падобнае, а гэты будзе значна больш. То я і заплаціў тыя 45 тысяч. А мне выпісалі паперу, што «Карона» да мяне прэтэнзій не мае».

**300 грамаў арэшкаў**

каштуюць 45 тысяч рублёў і забяспечваюць дозу калорый, амаль дастатковую дарасламу чалавеку на дзень. 50 грамаў арэхаў лёгка змясціцца ў мужчынскую далонь.

**Штодзень у вялікім гіпермаркеце**

ловяць тры-чатыры чалавекі. За дробныя крадзяжы крымінальнай адказнасці не прадугледжваецца. Асацыяльныя асобы цібраць пераважна прадукты і алкаголь.

### Штодня чатырох ловім

Начальнік службы аховы «Кароны» гаварыць не хоча. Яго можна зразумець. Праверка яшчэ не скончана, кропка ў справе не пастаўлена.

Праца ў яго – не пазайздросціш. Крадуць увесь час! «Тры-чатыры чалавекі за дзень ловім. Але я тут два гады працую, а каб такое... Такое ўпершыню».

У заяве ахоўнікаў у міліцыю гаворыцца: яны абараняліся, а біцца першым пачаў хлопец.

Дарэчы, Аляксандр быў злёгку выпіўшы. Медыкі выявілі 0,16 праміле. Напэўна, прыняў піва вечарком.

**Што дазволена ахоўнікам?**

Згодна з законам «Аб ахоўнай дзейнасці» ахоўнікі маюць права правяраць дакументы. Пры падазрэнні на крадзеж могуць затрымаць і правесці чалавека ў службовае памяшканне або міліцыю. Яны маюць і права праводзіць асабісты надгляд парушальнікаў.

Перш чым выкарыстоўваць спецсродкі і фізічную сілу ахоўнікі абавязаныя папярэдзіць пра гэта. Калі ўжыванне сілы непазбежнае, яны павінны намагацца нанесці найменшую шкоду здароўю, гонару, годнасці і маёмасці.



Гэтая гісторыя паказала, што дзейнасць ахоўных структур у крамах у нас не да канца адрэгулявана. І голаду ў краіне няма, а ўсё адно крадуць масава. Запускаюць руку ў чужое, магазіннае, як ва ўласную кішэню. Раз так, патрэбны дакладна прапісаныя працэдуры. Ды абавязковае відэаназіранне ў месцах працы аховы, каб суд мог разабрацца ў кожнай падобнай сітуацыі.

**Сяргей Макарэвіч**

## Вышук



Кіраўскі РАУС расшуквае **Жалязнова Эдуарда Міхайлавіча**, ураджэнца в. Паршына Горацкага раёна. Ён падазраецца ў махлярстве ў асабліва буйным памеры. Прыкметы: на выгляд 35—40 гадоў, рост каля 170—175 см, валасы светлыя, маюцца залысіны.

Хто валодае інфармацыяй пра падазраванага, тэлефануйце на: (02237) 2-42-27, (044) 757-85-33.



Ашмянскі РАУС расшуквае **Рыбака Віктара Мікалаевіча**, жыхара Ашмянаў. У верасні 2012 ён пайшоў з дому і не вярнуўся. Прыкметы: на выгляд 60 гадоў, рост каля 160 см, хударлявы, вочы блакітныя. Быў апрануты ў чырвоны швэдар, цёмныя штаны, сланцы.

Хто ведае месцазнаходжанне Рыбака, тэлефануйце на (01593) 4-45-42.

## Сцісла

**Згарэла хатняя наркалабараторыя**

Сталічныя пажарныя прыехалі тушыць прыватны дом, а выратавалі цэлую наркалабараторыю. Адзін пакой займалі «плантацыі» марыхуаны, другі выкарыстоўваўся для прасушкі расліны. Калі выратавальнікі выклікалі міліцыю, гаспадар дома збег. Але яго затрымалі. Аказалася, што захапленне «траўкай» ён прывёз з Нідэрландаў, дзе да нядаўняга часу жыў.

**Выжыў пасля двайнога наезду**

Дваццацігадовы мінчук шчасцем застаўся жывы. Ён перабягаў праезную частку на чырвонае святло і трапіў пад колы «Рэно». Ад удару хлопца адкінула на сустрэчны «БМВ». З чэрапна-мазгавой траўмай, ударам пляча і траўмай грудной клеткі яго шпіталізавалі.

**Чыноўнікаў будуць судзіць**

Скончана расследаванне крымінальнай справы супраць экс-мэра Гомеля Віктара Піліпца і супрацоўнікаў гарвыканкама. Яны абвінавачваюцца ў незаконным размеркаванні кватэр паміж сваякамі па заніжаных цэнах. Шкода ацэнена ў 3,8 млрд рублёў.

**Дзеці атруціліся палівам**

За адзін тыдзень у Рагачоўскім раёне адбыліся два падобныя здарэнні. Паўтарагадовыя хлопчыкі выпілі аўтамабільнае паліва. Адзін — бензіну, другі — дызелю. У абодвух выпадках паліва знаходзілася ў адкрытых ёмістасцях побач з домам. Дзеткі шпіталізаваныя.

КМ

# Дзе працуюць дзецi беларускiх чыноўнiкаў?

Дзяржаўная служба іх **не вабіць**.

Сярэднестатычны беларускі чыноўнік высокага рангу — мужчына, якому зусім трохі засталося да 55 гадоў. Ён нарадзіўся ў вёсцы, прыехаў у сталіцу, скончыў БДУ, палітэх ці БДЭУ, падняўся па кар’ернай лесвіцы... «Мае жонку і дваіх дзяцей» — на такой аптымістычнай ноце сканчваецца большасць біяграфій чыноўнікаў.

У адрозненне ад Захаду, у беларускай палітычнай культуры не прынята выстаўляць сям’ю на агульны агляд. Аднак час ідзе, прадстаўнікі «пакалення next» пачынаюць рабіць сваю кар’еру — камусьці ў гэтым дапамагаюць бацькі, нехта ўсяго дасягае сам. Маладзейшыя дзеці чыноўнікаў і грамадскіх дзеячаў тым часам не цураюцца рэгістравацца ў сацыяльных сетках ды публікаваць свае здымкі, нават інтымнага плана.

«Наша Ніва» даведалася, чым займаюцца дзеці некаторых уплывовых беларусаў. Мы звярнулі ўвагу на тых, хто прысутнічае ў грамадскім жыцці краіны ці актыўнічае ў сацыяльных сетках.

**Адар’я Гуштын, Ягор Марціновіч**



Адвакат Аляксей Ярмошын.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН; GAZETABY.COM

Старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі **Лідзія Ярмошына** расказвала, што перажыла два разводы. Абодва разы сям’я распадалася па яе ініцыятыве. Хлопчыкі, якія выраслі без бацькі, не маюць успамінаў, што такое жыццё ў паўнавартаснай сям’і, працягвала яна. І прыводзіла ў прыклад свайго нежанатага сына.

Аляксей, якому пайшоў чацвёрты дзясятак, цяпер працуе адвакатам у Мінскай абласной спецыялізаванай юрыдычнай кансультацыі. А раней стаяў па іншы бок барыкадаў — некалькі гадоў таму фігураваў як намеснік пракурора Фрунзенскага раёна Мінска.

Былы міністр культуры **Павел Латушка** расказваў у інтэрв’ю, што пасля ягонага разводу з жонкай дзесяцігадовая дачка Яня засталася з ім.

Летась яна скончыла сталічную гімназію і паступіла ў БДУ. А цяпер пекная дзяўчына жыве на дзве краіны. Яе бацька быў прызначаны амбасадарам у Францыі, а яна пачала працу ў консульскай службе. «Сёння самастойна выдала першую візу з Францыі ў Беларусь», — пахвалілася нядаўна Яня. Але часам ёй даводзіцца прылятаць у Мінск. Гэтымі днямі дзяўчына якраз здае сесію.



Яня Латушка.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН; VK.COM

У кіраўніцы Нацбанка **Надзеі Ермаковай** дзве дачкі. Абедзве атрымалі эканамічную адукацыю, аднак па спецыяльнасці не працуюць. Старэйшая Наталля займаецца хатняй гаспадаркай і гадуе дваіх дзяцей. А вось малодшая Юлія адкрыла сваю фотастудыю. Яна гадуе яшчэ аднаго ўнука старшыні Нацбанка.



Вольга і Інга Праляскоўскія.

FACEBOOK.COM; СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У артылерыста **Алега Праляскоўскага**, які з 2009 узначальвае міністэрства інфармацыі, дзве дачкі. Старэйшая, Вольга, праславілася адразу ў двух кірунках дзейнасці.

Па-першае, як аспірантка Акадэміі кіравання яна апублікавала ў часопісе «Беларуская думка» выкрывальны артыкул пра сацыяльныя сеткі. «Апаненты ўлады прыкрываюць свае намеры крадзенымі лозунгамі», «пратэст накіраваны на дэзынтэграцыю беларускага народа і фактычна пазбаўляе моладзь і грамадства той самай будучыні», — пісала Вольга пра дзейнасць «Рэвалюцыі праз сацыяльныя сеткі» ў Беларусі.

Па-другое, у вольны ад вучобы час дзяўчына спявае. Сцэнічнае імя — Юліяна. Пад такім псеўданімам яна трапіла ў лік пераможцаў конкурсу «Зорны дыліжанс» у сярэдзіне 2000-х.

Малодшая Інга навучаецца ў Лінгвістычным універсітэце. Зрэшты, гэтую ўстанову скончыла і яе сястра. У акаўнце Інгі выкладзеныя яе здымкі з адпачынку. Каментуючы іх, дзяўчына наракае, маўляў, пакуль некаторыя яе сяброўкі ездзяць у Лондан, яна пяты раз запар адпачывае ў Сочы.



Віктар Камянкоў з жонкай (другая справа), малодшым сынам Аляксандрам (злева) і нявесткай Верай (другая злева).

FACEBOOK.COM

**Віктар Камянкоў** — адзін з рэкардсменаў лукашэнкаўскай Беларусі па няспынным знаходжанні на высокай пасадзе. Ад 2001 года ён узначальвае Вышэйшы гаспадарчы суд.

Юрыдычную адукацыю атрымала ўся сям’я Камянковых. Жонка Людміла вось ужо пяць гадоў з’яўляецца старшынёй Эканамічнага суда СНД. Доўгі час яна працавала ў сістэме Міністэрства замежных спраў Беларусі. У шлюбе Камянковы ўжо 32 гады! Цяпер жывуць у катэджы ў Драздах.

Іх старэйшага сына Глеба на форуме юрфака называлі «самым прыгожым студэнтам факультэта». Пасля вучобы ў БДУ ён адслужыў у Памежных войсках, а цяпер працуе ў Мінскай гарадской калегіі адвакатаў.

А вось малодшы Аляксандр адкрыў сваю юрыдычную кампанію «Юст Камянкоў». І адначасова дапамагае жонцы Веры арганізоўваць вяселлі. Прыемна, што ў сацыяльных сетках Аляксандр піша па-беларуску.

Наталля Ігнаценка, дачка кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі і лідара «Белай Русі» **Аляксандра Радзькова**, жыве і працуе ў Маскве. Яна выкладчыца музыкі і спеваў у пачатковай школе. «Я адчуваю бясконцую настальгію па роднай зямлі», — прызнаецца Наталля.

У вольны час яна піша вершы, паспела выдаць два зборнікі: «Як прафесію сабе дзеці выбіралі» і «Казачныя падарожжы з прыгодамі». Па-беларуску яны загучалі ў перакладзе паэткі Раісы Баравіковай.

Рыфмаваць словы дачку навучыў сам Аляксандр Радзькоў. «У вольны час ён праводзіў са мной пазнавальныя віктарыны, розныя гульні. Сярод любімых — бурымэ (вершы, якія пішуцца на зададзеныя рыфмы)», — расказвала яна.

Наталля гадуе для ўплывовага таты двух унукаў. Старэйшы, Павел, займаецца фігурным катаннем. Ён трэніруецца ў Маскве, але выступае за Беларусь. Сёлета хлопец стаў 13-м на чэмпіянаце Еўропы, а вось на чэмпіянат свету ў Канаду лідар беларускай зборнай не паляцеў — не ўдалося адкрыць візу.



Наталля Ігнаценка.

P-SHKOLA.BY

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



Павел Ігнаценка — унук Аляксандра Радзькова.

Сын брэсцкага губернатара **Канстанціна Сумара** больш за год кіруе брэсцкай абласной ДАІ. Палкоўнік міліцыі Андрэй Сумар раней узначальваў камянецкую міліцыю. У яго дзве адукацыі — Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт і Акадэмія МУС.



Андрэй Козік.

ТЭЛЕКАНАЛ ТРА-САЮЗ

PHOTO.BYMEDIA.NET

**Леанід Козік** вось ужо адзінаццаты год узначальвае афіцыйную федэрацыю прафсаюзаў. Ягоны сын Андрэй тым часам працуе першым прарэктарам прафсаюзнага ўніверсітэта МІТСО. Аднак пісаць пра якуюкольвек сувязь гэтых фактаў небяспечна. Некалькі гадоў таму Андрэй Козік судзіўся з сайтам Аб'яднанай грамадзянскай партыі за артыкул «Сям'я робіць бізнэс».

Козік-малодшы скончыў Акадэмію кіравання, пасля чаго заняўся юрыдычнай практыкай. Ён працаваў у якасці эксперта ў складзе афіцыйных дэлегацый Беларусі ў іншых краінах свету. Калі дзяржава звярнулася ў суд ЕўрАзЭС з пазовам да Расіі, выпрацоўваць юрыдычную пазіцыю паклікалі менавіта Козіка.

Ён жа быў заснавальнікам юрыдычнай кампаніі «АргументЪ», якая, сярод іншага, займаецца суправаджэннем інвестыцыйных праектаў у Беларусі.



Сяргей Васілевіч робіць кар'еру ў пракуратуры.

BSU.BY

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

«Мы ўдзячныя прафесару **Рыгору Аляксеевічу Васілевічу** і Сяргею Рыгоравічу Васілевічу за магчымасць даведацца аб працы пракуратуры па абароне правоў і свабод грамадзян», — гаворыцца ў справаздачы са сходу аднаго з гурткоў юрыдычнага факультэта БДУ. Асноўнае месца працы адстаўнога старшыні Канстытуцыйнага суда, а пасля і генеральнай пракуратуры — кафедра канстытуцыйнага права юрфака. На той самай кафедры па сумяшчальніцтве працуе і сын Сяргей.

Адразу пасля заканчэння ўніверсітэта Васілевіча-малодшага ўзялі памочнікам пракурора Маскоўскага раёна Мінска. Цяпер ён працуе «ў апараце пракуратуры» сталіцы. 29-гадовы навуковец паспеў абараніць кандыдацкую дысертацыю, прысвечаную адміністратыўным спагнанням матэрыяльнага характару.

Дырэктар завода БАТЭ і аднайменнага футбольнага клуба **Анатоль Капскі** адправіў дачку вучыцца ў Ліверпуль. У 2011 Алеся атрымала ступень магістра бізнэс-адміністравання са спецыялізацыяй у футбольнай індустрыі. А за год да таго скончыла БДУ па спецыяльнасці «юрыст-міжнароднік». Цяпер Алеся Капская — намеснік начальніка дэпартамента развіцця ў татавым клубе.

А сын Андрэй, згодна з анкетай, вывучае менеджмент у БДУ.

ATLANTM.COM



Алеся Капская працуе ў БАТЭ.

FCBATE.BY

PHOTO.BYMEDIA.NET



Уладзіслаў Андрэйчанка кіруе філіяй МТС.

NEWS.VITEBSK.CC

Сын колішняга губернатара Віцебшчыны, а цяпер старшыні палаты прадстаўнікоў **Уладзіміра Андрэйчанкі** працуе ў кампаніі МТС. З 2007 Уладзіслаў узначальвае віцебскую філію мабільнага аператара. У анкеце пазначана, што ён мае некалькі вышэйшых адукацый.

Адметна, што на Віцебшчыне МТС спансаруе мерапрыемствы па папулярызацыі беларускай мовы — напрыклад, конкурс «Казка для Караткевіча» і фолк-рок фестываль «Полацкі сшытак».

Першая намесніца кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта **Наталля Пяткевіч** гадуе сына Філіпа. Малады чалавек вучыцца ў Ліцэі БДУ — самай прэстыжнай даўніверсітэцкай навучальнай установе краіны.

# «Самы прыгожы на планеце»: беларускі студэнт з Ірака стаў сусветнай зоркай нэту



Ахмед — студэнт з Ірака, які вывучае медыцыну ў Беларусі. Аднак марыць ён не пра доктарскую практыку, а пра кар’еру мадэлі.

Таму ён стварыў Укантакце старонку, на якой выклаў некалькі соцень сваіх апрацаваных у фоташопе здымкаў. Ахмед апранаецца па апошняй іракскай модзе і ўкладвае валасы гелем.

Экстравагантная старонка Ахмеда — Ahmed Angel — прыцягнула ўвагу беларускіх карыстальнікаў яшчэ ў канцы 2012 года. Ахмед старанна адказваў сваім прыхільнікам і прыхільніцам. Ягоная ламаная, але салодкая расейская мова, перасыпаная клічнікамі і англійскімі эпітэтамі, стала мемам. Паступова кола ягоных фанаў расло, і ўвесну гэтага года да яго прыйшла сапраўды сусветная слава. Фота сабралі мільёны праглядаў, у інтэрнэце ходзяць тысячы калажаў на іх аснове. Феномен наіўнага маладога студэнта прыцягнуў увагу агенцтва ЮПІ і брытанскай газеты Daily Mail.

Ці ён самы прыгожы мужчына на планеце? Сам ён пэўны, што гэта так. Ахмеду 18 гадоў. Ён далёкі ад распаўсюджанага стэрэатыпу пра арабаў і чарговы раз нагадвае, якія людзі бываюць розныя.

**Сямён Цыбульскі**

Фотафакт



**СКА нагадаў пра сябе ў Еўропе**

Напрыканцы 1980-х імя мінскага гандбольнага СКА было легендай у Еўропе. Каманда тройчы выйгравала Кубак еўрапейскіх чэмпіёнаў, яшчэ двойчы — Кубак ЕГФ. Ніводзін беларускі гульнявы клуб не мае такой багатай гісторыі перамог. Сёлета СКА нагадаў пра сябе. Каманда выйграла Кубак выкліку (трэці па прэстыжы гандбольны турнір Еўропы). У фінальным паядынку мінчукі перамаглі люксембургскі «Эш». Адметна, што да перамогі СКА прывёў той самы Спартак Мірановіч (на фота), які здабываў тытулы з камандай яшчэ 25 гадоў таму. У СКА, дарэчы, няма ніводнага легіянера. Адны беларусы.

**ЗП**

# МАЗ прэзентаваў школьны аўтобус



Бусы будуць жоўтыя, як у Амерыцы.

Цяпер Мінскі аўтазавод штомесяц выпускае каля 30 адзінак такіх аўтобусаў. Яны пастаўляюцца як спажыўцам Беларусі, так і ў Расію.

Прадстаўляючы машыну, галоўны канструктар па аўтобусах Юрый Сыракваш адзначыў, што аўтобус для расійскіх спажыўцоў крыху адрозніваецца. На аўтобусе для Расіі — надпіс «Дети», для Беларусі — «Школьны». Такое патрабаванне стандартаў дзвюх краін.

Ёсць высоўная прыступка, сядзенні абсталяваныя прывязнымі рамянямі, ёсць крэслы для суправаджальнага, устаноўленыя праблісковыя маячкі, знешняя гучнагаварыльная сувязь. Акрамя таго, машына абсталяваная прымусовым абмежаваннем хуткасці да 60 км/гадз. Даўжыня аўтобуса 6,8 м, у салоне размяшчаюцца 22 сядзенні.

**БелаПАН**



Камертон Сяргея Ваганава

# Музыка веры

На мінулым тыдні наведвальнікі сайта nn.by маглі назіраць даволі рэдкую для сённяшніх СМІ з’яву — палеміку па пытаннях веры, рэлігіі, што распачаў Стась Карпаў у «атэістычным эсэ» пад эпатажнай назвай «Пра паразіта веры, ці Санта-Клерыкалус».

Ад самага пачатку Карпаў папярэджвае: «Тых, каго гэты тэкст можа абразіць — ён адназначна абразіць. Астатніх, імаверна, не зацікавіць»...

Вынікае, што аўтар свядома імкнецца абразіць вернікаў як носьбітаў страшэннага паразіта. Нібыта нельга сцвярджаць свае атэістычныя перакананні без абразы...

Я ўважліва, некалькі разоў, прачытаў гэты тэкст, але так і не зразумеў, да якой катэгорыі далучыцца — абражаных ці астатніх. У існаванне Бога не веру, па выхаванні і жыцці застаюся атэістам. З чаго б абражацца? Але...

Але згадаўся драўляны касцёл у вёсцы, дзе калісьці давялося настаўнічаць.

Я любіў прыходзіць у гэты касцёл, дыхаць мядовым паветрам, што сыходзіла ад яго цёплых, прылашчаных сонечным промнем, сценаў...

Аднойчы стары ксёндз дазволіў узяць некалькі акордаў на трошкі сіпаватым аргане. Мо менавіта з таго моманту я адчуў, што з усіх пытанняў, якія задавалі, задаюць і да скону будуць задаваць сабе людзі, адно застанецца недаступнай аніякаму розуму таямніцай: скуль дадзена чалавеку музыка?..

А ўвесну, калі барада, што я па франдзёрстве тых часоў вырашыў адгадаваць, дасягнула бачных памераў, прыслужніца ксяндза Тэкля, кінуўшы ля ручая статак гусей, пабегла за мной, кульгаючы на пратэзе, пагражаючы дубцом і на ўсю вёску лямантуючы: «Маска-а-ль!» Наступным разам яна ўжо бегла за мной з брытвай... Урэшце дамаглася свайго: бараду я збрыў. Вось так перамог клерыкалізм...

Чымсьці падобным, на мой погляд, толькі з адваротным знакам, прасякнута «атэістычнае эсэ» Стася Карпава. Так і чуецца тупат ззаду і лямант: «Паразі-і-т!»...

Гэта толькі на першы погляд падаецца, што ваяўнічы атэізм, дакладней, антыхрысціянства аўтара мае гуманістычныя падставы. Маўляў, верай у Бога асвячаліся ці не ўсе крывавыя падзеі сусветнай гісторыі. Да таго ж царква імкнецца ўлезці не толькі ў душу, але і ў ложак...

Насамрэч гэта бязглуздая блытаніна, боб з гарохам. Бо кроў і гвалт вынікаюць не з веры ў Хрыста ці ў Магамета, а з жадання прыстасаваць веру да карыслівых мэтаў палітыкі, найперш да развязвання войнаў, ціску на іншадумства, захопу ды ўтрымання ўлады.

У дачыненні да нашай дзяржавы гэтае жаданне ўвогуле на паверхні. Аднойчы яе кіраўнік так проста і выказаўся: «Галоўным ідэолагам у нашай дзяржаве з’яўляецца царква». Праваслаўная, вядома. Абразіў, так бы мовіць, каталікоў, мусульман, юдэяў, пратэстантаў... І не заглянуў у святцы, то бок у Канстытуцыю, у яе 4 артыкул: «...Ідэалогія палітычных партый, рэлігійных ці іншых грамадскіх аб’яднанняў, сацыяльных груповак не можа ўсталёўвацца ў якасці абавязковай для грамадзян».

**У нас выбачацца не прынята. У нас прынята асвячаць »**

У дэмакратычных дзяржавах спробы прыстасаваць царкву да мэтаў палітыкі абмяжоўваюцца самой царквой, якая цураецца прамой падтрымкі палітыкаў, але не пазбягае маральнай ацэнкі іх дзеянняў. А бывае, выбачаецца і за ўласныя грахі.

У нас выбачацца не прынята. У нас прынята асвячаць.

Аднак вернемся да згаданага «атэістычнага эсэ».

Калі прадзёрціся праз цьмяныя фармулёўкі і хісткую логіку аўтара, таксама можна сутыкнуцца са спробай шляхам абразы адмовіць чалавеку ў асабістым праве на веру, ускласці на верніка адказнасць за грахі царквы як сацыяльнага інстытута, напужаць яго хваробай, якую нібыта нясе ў сабе вера, і надаць атэізму рысы ўсеагульнай ідэалогіі. Хацеў таго Стась Карпаў ці не хацеў, але ягоны прыватны, так бы мовіць, **маніфест атэіста** насамрэч ператварыўся ў **маніфест Антыхрыста**. Бо менавіта Антыхрысту — ці то ў дзяржаўным, ці то ў прыватным увасабленні — уласціва свядома абражаць вернікаў і не абцяжарваць сябе выбачэннямі...

Тое, што Пётра Рудкоўскі ў сваёй палеміцы са Стасем Карпавым пазначыў як «новы атэізм» — з’ява і сапраўды адносна новая ў параўнанні з бальшавіцкай бязбожнасцю. Але сутнасна не вельмі адрозніваецца. Парадаксальным чынам яна не вельмі адрозніваецца і ад спробаў улады замацаваць веру ў якасці дзяржаўнай ідэалогіі. Магчыма, менавіта гэтыя спробы ў спалучэнні з бязмежным крывадушшам клерыкалаў выклікалі з’яўленне «новага атэізму».

Але прычым тут вера ці бязвер’е як вынік свядомага выбару чалавека, ягонага асабістага сумлення?

На мой погляд, усялякая — ці то ад імя дзяржавы, ці то ўласная — спроба абмежаваць гэты выбар ёсць вынік інтэлектуальнай распусты і сардэчнай глухаты.

Глухаты, праз якую немагчыма пачуць Музыку, што дараванa толькі чалавеку.

Невядома кім і адкуль.

*kamerton_41@mail.ru*

# Юрый Зісер: **Я заўсёды быў перакананы, што ўсё атрымаецца**

**Уласнік партала tut.by**
Юрый Зісер наведаў рэдакцыю «Нашай Нівы», каб адказаць на пытанні чытачоў, а таксама прыняць удзел у перадачы «Рупар эпохі». Што з гэтага атрымалася, чытайце тут.



Пра выбары: «Нельга дамагчыся вынікаў у тым, чаго няма»

**Юрый Зісер**

Нарадзіўся ў 1960 у Львове. Скончыў Паўночна-Заходні політэхнічны інстытут (Санкт-Пецярбург) па спецыяльнасці «Электронна вылічальныя машыны». Прафесійны праграміст, сістэмны аналітык. Ад 1992 — генеральны дырэктар і ўладальнік УП «Надзейныя праграмы» (гандлёвая марка — TUT.BY).

**«Наша Ніва»: Якім Вы згадваеце Львоў свайго дзяцінства?**

**Юрый Зісер:** У мяне да горада самыя пяшчотныя пачуцці. Калі ж браць этнічны бок, то былі дастаткова непрымірымыя групоўкі — мясцовыя ўкраінцы і ўсе астатнія. Групоўкі гэтыя, фактычна, не кантактавалі паміж сабой. Не сябравалі. Калі нехта ўступаў у шлюб з прадстаўніком іншай групоўкі, то бацькі ледзьве не адмаўляліся ад іх. Адзін на аднаго нагаворвалі, стваралі анекдоты. Быў высокі градус нецярпімасці. Мяне мама заўсёды вучыла: «Юрка, мы жывём у несяброўскім коле, мы яўрэі, таму, каб нечага дабіцца ў жыцці, ты павінен быць на дзве галавы быць вышэйшым за астатніх». Яна мяне такім чынам падштурхоўвала наперад, можа, таму я нечага дабіўся ў жыцці.

**«НН»: Пасля Вы з’ехалі вучыцца ў Санкт-Пецярбург?**

**ЮЗ:** Насамрэч я вучыўся завочна. Працягваў жыць у Львове. Працаваў на заводзе. У 1986 я пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай [культуролаг Юлія Чарняўская — «НН»], і яна аказалася з Мінска. Яны вялікай кампаніяй прыехалі ў Львоў на маёўку аўтарскай песні. Каханне з першага погляду. Спачатку яна пераехала да мяне ў Львоў. Год так пажылі. А ў 1987 мы пераехалі ў Мінск, усё ж там было больш перспектыў. У Расіі я працаваў у 1990—1991 у Лангепасе Цюменскай вобласці — нафтавіком.

**«НН»: Як Вы ўспрымалі Мінск?**

**ЮЗ:** Аграмадны пусты горад, дзе а 20-й вечара на вуліцах народу менш, чым у Львове а 1-й ночы. А 22-й у Мінску гасла святло ў апошнім акне дома насупраць. Людзі пераходзяць дарогу толькі на зялёнае святло — гэта дзікунства. У Львове ніхто не звяртаў на святлафоры ўвагі. Дысцыплінаванасць. Спачатку ўспрыняў гэта як дзівацтва і забітасць. Пасля я памяняўся, звыкся чакаць на чырвонае святло. Хаця не заўсёды хапае цярпення.

**«НН»: І як потым сталі ствараць свой бізнэс, які ў будучыні перарос у tut.by?**

**ЮЗ:** Выпадкова. На Поўначы, у Лангепасе, я працаваў праграмістам, мы аўтаматызавалі горад. Пісалі праграмы для райвыканкама, пажарнікаў, банка. Я распрацаваў удалую банкаўскую праграму. Прапанавалі гаспадару кампаніі тыражаваць гэтую праграму. Ён сказаў: «Вам трэба, вы і тыражуйце». Мы пайшлі ў Мінску з нашымі праграмамі па банках. Было цікава, чаго ж мы вартыя. І мая праграма аказалася ўнікальнай. Банкі сталі яе масава набываць. Я спачатку не разумеў, што гэта бізнэс. Калі я прадаў праграму ў трыццаты раз праз пасярэднікаў, якія мне хлусілі, то воляй-няволяй пайшоў рэгістраваць свой бізнэс.

**«НН»: А сам партал як з’явіўся?**

**ЮЗ:** У 2000. Спачатку я паехаў на стажыроўку ў Штаты (1998). Паглядзеў, як там усё завязана на інтэрнэце. У Беларусі тады было 500 сайтаў і ніхто не ведаў, як да іх падступіцца. Тады ў Амерыцы ўсе гаварылі пра Yahoo, дзе была і пошта, і пошукавік, і навіны. Я вырашыў клянаваць Yahoo — гэта і было маёй мэтай. Усе хацелі пошту тады ў даменнай зоне by, і мы яе стварылі. Нас нават называлі здзекліва «паштовы партал». Навіны ж а палове на восьмую раніцы на сайт закідваў адзін студэнт.

**«НН»: Не было страшна, што ўвесь бізнэс можа скончыцца імгненна?**

## У Мінску людзі пераходзяць дарогу толькі на зялёнае святло — гэта дзікунства

**ЮЗ:** Былі нядобрыя моманты. Летам 2001 ад нас адмовіўся замоўца па праграмаванні. Паўтара года існавалі ў стане «зубы на паліцу». Працавала роўна паўтара чалавека на tut.by — эканаміст і студэнт-сісадмін на паўстаўкі. Але я заўсёды быў перакананы, што ўсё атрымаецца.

**«НН»: Цяпер Вы публічная асоба, Ваша меркаванне для людзей важнае. Вы не абмяжоўваецеся толькі пытаннямі IT-тэхналогій, але цікавіцеся і палітыкай, культурай…**

**ЮЗ:** Канечне, я тут жыву, гэта мая краіна. Мяне закранаюць многія рэчы.

**«НН»: На Вашую думку, на якім этапе развіцця знаходзіцца Беларусь? Беларусь як дзяржава дэградуе або развіваецца? Якой Вы б хацелі бачыць Беларусь, таталітарнай або дэмакратычнай?**

**ЮЗ:** Безумоўна, нашыя дзяржава і грамадства развіваюцца. У дзяржаве прымаюцца новыя законы і ўдакладняюцца старыя. Развіваецца і расце эканоміка, нягледзячы на апакаліптычныя прагнозы пятнаццаці апошніх гадоў. Расце доля прыватнага бізнэсу. Зразумела, я за дэмакратычную Беларусь — што за дзіўнае пытанне!

**«НН»: Прыхільнікам якіх ідэй Вы з’яўляецеся (правых/левых/сацыялізм/кансерватызм)?**

**ЮЗ:** У профілі facebook у мяне напісана «капіталіст». Я сапраўды веру, што Беларусь выратуе капіталізм.

**«НН»: Шмат розгаласу выклікала інфармацыя пра мінулае былога карэспандэнта tut.by Уладзіміра Чудзянцова. Вы яго абаранялі ад шматлікіх нападак і крытыкі. Але днямі ў ягоным Фэйсбуку я прачытала, як ён негатыўна адгукаецца пра tut.by і пра Вас.**

**ЮЗ:** З Чудзянцовым было шкада расставацца з прычыны яго прафесійных якасцяў. Але ён сам выбраў свой шлях, парушыўшы сваё абяцанне ўжо праз дзве гадзіны пасля таго, як яго даў, выдатна ведаючы, што яно было апошнім. А што я заступаўся за яго да гэтага — не шкадую: гэта было шчыра. Што ж, ні адна добрая справа не застаецца беспакаранай.

## Зразумела, я за дэмакратычную Беларусь

**«НН»: Ці ёсць у РБ карупцыя?**

**ЮЗ:** Ёсць. Проста яна не на пабытавым узроўні, яе не так лёгка ўбачыць. У той жа час лічыць яе сур’ёзнай праблемай Беларусі можа толькі чалавек, які ніколі не бываў у Азіі.

**«НН»: Чаму апазіцыя ніяк не можа дамагчыся прыстойных вынікаў на выбарах?**

**ЮЗ:** Нельга дамагчыся вынікаў у тым, чаго няма. Тыя, хто хоча і прывык дамагацца вынікаў, у Беларусі не ідуць у палітыку, а, напрыклад, займаюцца бізнэсам.

**«НН»: Якое Вашае стаўленне да бел-чырвона-белага сцяга і герба «Пагоня»?**

**ЮЗ:** Станоўчае. Толькі як чалавек, які мае дачыненне да маркетынгу і брэндынгу, я лічу, што ў будучыні Беларусь мае патрэбу ў новым сцягу і ў новым гербе, якія адрозніваюцца ад герба суседняй дзяржавы. Ну дзе вы бачылі дзве дзяржавы з аднолькавымі гербамі? Ці хтосьці ўсур’ёз думае, што можна адгаварыць Літву ад выкарыстання «Пагоні»? А мая аргументацыя па сцягу тая ж, па якой новы сцяг увялі ў Грузіі. Вось вы з дзяцінства сцяг якой замежнай дзяржавы запомнілі першым? Правільна, японскі, як і ўсе цікаўныя падлеткі, таму што ён ні да якога іншага не падобны. А цяпер паглядзіце на наш гістарычны сцяг, а потым зірніце на польскі і латвійскі. Ну які замежнік адрозніць гэтыя тры сцягі і запомніць, які ёсць які! Гэта значыць, наш гістарычны сцяг слаба выконвае сваю галоўную функцыю — ідэнтыфікацыйную, бо нераспазнавальна падобны да сцягоў суседзяў. Наш дзяржаўны сцяг, дарэчы, запамінаецца значна лепш дзякуючы ўнікальнаму нацыянальнаму ўзору каля тронка (а не спалучэнню чырвонага з зялёным, якога ў свеце гаць гаці, пачынаючы з Партугаліі). Гэта вялікая будучая праца, толькі не для гісторыкаў, а для маркетолагаў і дызайнераў. Я падыходжу да пытання не з хваравіта-гістарычнага пункта гледжання, а з функцыянальнага і разумею, што мой падыход выклікае крытыку. Больш за тое, я і з нагоды назвы нашай краіны выказаўся нетрадыцыйна.

**«НН»: За каго Вы галасавалі ў 1994?**

**ЮЗ:** У першым туры за Шушкевіча, у другім не ўдзельнічаў.

**«НН»: Калі б бізнэсмэн з Англіі альбо Францыі, які займаецца IT-тэхналогіямі, папрасіў у Вас парады, ці варта яму пераносіць свой бізнэс у Беларусь, што б Вы яму параілі?**

**ЮЗ:** Так, так і яшчэ раз так. У нас выдатныя ўмовы для распрацоўкі ПА, працуе Парк высокіх тэхналогій, ёсць кваліфікаваныя кадры і з’явіліся менеджары, здольныя ўзначаліць аперацыйную працу.

**Пытанні задавалі Стась Карпаў і чытачы nn.by.**

# Найлепшыя стужкі зняў на зломе эпох

**Кінарэжысёра Пятра Тадароўскага не стала 24 мая.**

Сардэчны прыступ, вынік працяглай ішэмічнай хваробы, стаў для яго фатальным.

Пятро Тадароўскі нарадзіўся ва ўкраінскім горадзе Бабрынец на Кіраваградчыне ў 1925-м, у яўрэйскай сям'і. Яго год нараджэння пасля, у часы Другой сусветнай, стане адным з апошніх «прызыўных».

Дзіўныя паралелі можна заўважыць у лёсах рэжысёра і беларускага пісьменніка Васіля Быкава. Абодва трапілі ў ваеннае пекла пасля афіцэрскіх курсаў. На роднай для Тадароўскага Кіраваградчыне Быкаў быў палічаны забітым. Пасля вайны франтавік Тадароўскі, які Быкаў, гадамі не мог дэмабілізавацца з войска, бо не было каму служыць. (Праўда, даслужваў не на Камчатцы, а пад Кастрамой.) Містыкі ў сплячэнні лёсаў шукаць не варта — такім быў лёс тысяч хлапцоў ваеннага часу, якія выжылі.

Яго першы шлюб з Надзеяй Чараднічэнка распаўся ў 1961-м — актрыса-прыгажуня сышла да свайго першага мужа Івана Пераверзева. Засталася дачка. У 1962-м рэжысёр ажаніўся з Мірай Тадароўскай. Іх сын Валерый Тадароўскі — таксама кінарэжысёр.

Першы раз думка звязаць лёс з кіно прыйшла да Пятра Тадароўскага, як сам прызнаваўся, на фронце — каліназіраў за працай вайсковых аператараў.

З аператарства і пачынаў. Скончыўшы ВГІК, зняў як аператар «Вясну на Зарэчнай вуліцы» (1956). Фільм пра тое, як пасляваенная моладзь уваходзіць у жыццё, стаў суперпапулярным — гледачы ў героях пабачылі сябе.

Як рэжысёр Тадароўскі здымаў багата таго, што сам бачыў і перажыў — пасляваенны гарнізон чорт ведае дзе («Анкор, яшчэ анкор!»), атмасфера страху і рэпрэсій пачатку 1950-х («Якая дзіўная гульня»). І «Ваенна-палявы раман», зняты ў 1983-м і намінаваны на «Оскар».

У 1989-м ён зняў «Інтэрдзяўчынку» — першы масавы савецкі фільм пра лёс прастытуткі. Гэты фільм і сёння можна глядзець, гадаючы: чым жа ён скончыцца?

Нарабілі гуку і пазнейшыя фільмы Тадароўскага — накшталт «Стыляг». Ён, дарэчы, здымаўся часткова ў Мінску. Але там за гучнымі акторскімі імёнамі, за насычанасцю саўндтрэка зацерліся дзесьці душэўнасць і псіхалагізм. Усё ж найлепшыя свае працы Тадароўскі зняў на зломе эпох, калі ваенная і паваенная праўда з пісьменніцкіх шуфлядаў выйшла на вялікія экраны.

**Сяргей Мікулевіч**



## Пятро Тадароўскі. **Правілы жыцця**

• Чым драматычнейшыя здымкі, тым лепшы выходзіць фільм.

• Я памятаю канец адлігі. Мікіту прыбралі. І сталі зноў закручваць гайкі ... Тое ж самае і цяпер адбываецца, па-мойму.

• Серыялы — гэта звер, які праглынае акцёраў.

Калі першы раз ідзеш у атаку, не баішся. Бяжыш, як цяля. Але пасля ранення, калі трэба яшчэ раз ўстаць з акопаў, ты зусім іншы чалавек.

• Я прыкіпеў да музыкі з самага дзяцінства. За дзень я два-тры разы падыходжу да гітары. Сяджу, нешта брынькаю. Шукаю рашэнне.

• Я быў камендантам нямецкага горадка на Эльбе. Мне далі заданне: шукаць сем'і нацыстаў, якія не паспелі перабегчы да амерыканцаў. Нам данеслі, што ў горадзе схавалася пляменніца фельдмаршала Паўлюса. Прыгожая, васямнаццацігадовая дзеўка. Мы зрабілі аблаву, але яна паспела ўцячы праз акно проста ў жыта, у палі. Але мы яе злавілі. Я паставіў яе афіцыянткай у камендатуру, і на трэці дзень мы сталі з ёй жыць. Яна была зенітчыцай, хвалілася, што збіла амерыканскі самалёт, расказвала, што дзіцем сядзела на каленях у Гітлера. І аддалася ў апошнюю хвіліну нейкаму немцу, салдату, у руінах, каб не дастацца рускаму. А потым мяне раніцай заспеў з ёй у ложку начальнік палітаддзела корпуса палкоўнік Далгаполаў. І яе звезлі.

• Я ніколі не лічыў грошы. І калі яны пасыпаліся пасля «Інтэрдзяўчынкі», я не ведаў, што з імі рабіць. Я сам не мог нават здагадацца, што на іх можна купіць дачу. Галоўнае ў жыцці — каханне.

# Падзвіжнік Ігар Каляньkoў

Тэлежурналіст Ігар Каляньkoў памёр 26 мая. Уначы на нядзелю яго даставілі ў бальніцу з шырокім кровазліццём, выратаваць жыццё не атрымалася. Яму было 49 гадоў.

Каляньkoў па адукацыі быў не журналістам. Ён скончыў факультэт радыёфізікі і электронікі БДУ, працаваў на кафедры кібернэтыкі сваёй ВНУ, спяваў у фальклорным гурце «Неруш», працаваў ды-джэем.

Амаль выпадкова Каляньkoў трапіў на тэлебачанне, дзе спачатку пісаў сцэнары для перадачы «Усё нармальна, мама». Менавіта ён настойваў на тым, каб праграма выходзіла па-беларуску, хоць вядучая Ларыса Грыбалёва супрацоўлялася.

Аднак найбольшай жарсцю жыцця Каляньkoва быў футбол. Спачатку ён ствараў «Трэці тайм», потым «Сталічны футбол». Ягонай візітоўкай стала фраза «Любіце футбол, глядзіце футбол, гуляйце ў футбол і будзьце пры гэтым абсалютна здаровымі».

У асабістым жыцці Каляньkoў быў сціплым, аскетычным і непатрабавальным чалавекам. Усю сваю энергію аддаваў працы. Тытанічнымі намаганнямі ён збіраў у пандзелкавы «Сталічны футбол» відэа ўсіх галоў тура чэмпіянату Беларусі. Для гэтага дамаўляўся з маршрутчыкамі, правадніцамі. Рабіў усё магчымае для папулярызацыі гульні.

Паўтара года таму Каляньkoва звольнілі з працы. Апошнім часам шмат хварэў, але адмаўляўся ляжаць у бальніцах. Перабіваўся каментарамі футбольных матчаў у інтэрнэце. Марыў, што зможа знайсці сродкі на фільм пра гісторыю беларускага футбола.

**Зміцер Панкавец**



## Ігар Каляньkoў. **Правілы жыцця**

• У адзіноце забываю пра цыгарэты. Затое калі трэба нешта прыдумаць па працы, вырашыць, абмеркаваць… Як тут не закурыш?

• Выходзіць, адношуся да свайго здароўя легкадумна.

• Мне падабаецца, калі каментатар уступае з табой у дыялог. З ім спрачацца альбо сказаць: «О, правільна заўважыў». А апісваць тое, што робіцца на полі… Я і так бачу, што адбываецца.

• Жыццёвы досвед навучыў: калі ты гуляеш у футбол больш-менш цярпіма, то ніколі не будзеш ізгоем, пры жаданні заўсёды ўлiешся ў калектыў.

• Музыку я люблю, але не дзялю яе па жанрах, а па шкале «добрая — кепская».

• Вярнуцца да рэпартажаў на беларускай мове — гэта мая мара.

• Я не жанаты. У маім жыцці было некалькі прыгожых гісторый, але не склалася. Так бывае.

• Вясна для мяне — вельмі складаны перыяд. Цяжка перасоўвацца па горадзе, калі вакол столькі новага.

# Ігар Градабоеў памёр у 41

26 мая на 42-м годзе жыцця памёр легендарны бабруйскі футбаліст Ігар Градабоеў.

Ён быў з Гомеля. Пачынаў у мясцовым «Гомсельмашы», аднак найбольшых поспехаў Градабоеў дасягнуў у бабруйскай «Белшыне», дзе гуляў разам з братам-блізнюком Эдуардам.

Калі ў 2001 годзе «Белшына» першы і пакуль адзіны раз стала чэмпіёнам Беларусі, то Ігар згуляў у тым сезоне 17 матчаў. Ягоны ўклад у тое чэмпіёнства быў не першасным, але вельмі істотным.

Тагачасны трэнер бабруйчан Вячаслаў Акшаеў згадваў: «Ігар быў вельмі таленавітым футбалістам. Калі ён выходзіў на поле, то я ведаў, што ў нас будзе выдатны кантроль мяча і накірунак атакі Ігар знойдзе правільны».

Апошнія гады Ігар Градабоеў працаваў трэнерам моладзевай каманды «Белшыны», як і ягоны брат.

**ЗП**



# Камета Неўскага: самая яркая ў XXI стагоддзі

Сярод адкрывальнікаў каметы — беларус. Піша астраном **Віктар Малышчыц**.

Нядаўна на сайце Касмічнага тэлескопа «Хабл» з'явіўся здымак каметы C/2012 S1 ISON. Маленькае зоркападобнае ядро з невялікім блакітным хвастом здзяйсняе свой палёт дзесьці ў раёне арбіты Юпітэра, больш чым за паўмільярда кіламетраў ад Зямлі. Здавалася б, што ў гэтай касмічнай вандроўніцы незвычайнага? Маленькія каметы назіраюцца штогод у вялікай колькасці і з'яўляюцца прадметам цікавасці толькі спецыялістаў. Але два факты прымушаюць нас звярнуць увагу на здымкі: магчыма, гэта адна з самых яркіх камет XXI стагоддзя, і сярод імёнаў яе першаадкрывальнікаў значыцца наш суайчыннік.

**Хвост такой каметы можа расцягнуцца нават на чвэрць неба**



Феерычны хвост каметы МакНота (2011 год) многім запомніцца на ўсё жыццё.

### Як адкрываюць «хвастатых госцей»?

Каметы — гэта невялікія (часам некалькі кіламетраў) целы, якія складаюцца з замерзлых газаў і вады, а таксама з цвёрдых часцінак і пылу. Рухаюцца каметы па вельмі выцягнутых арбітах, таму, калі яны аддаляюцца на вялікую адлегласць ад Сонца і Зямлі, іх немагчыма ўбачыць у ніводзін зямны тэлескоп. Але чым бліжэй нябесная госця падыходзіць да Сонца, тым мацней яго промні награваюць паверхню каметы, выклікаючы выпарэнне газаў і выкід пылу — у каметы ўтвараецца дыфузны хвост.

Большасць адкрытых камет прылятаюць да нас з самых ускрайкаў Сонечнай сістэмы, а перыяды іх абарачэння вакол Сонца складаюць тысячы гадоў. Таму калі мы адкрываем новую «касмічную госцю», то, хутчэй за ўсё, мы бачым яе першы раз. Дарэчы, для адкрыцця каметы трэба некалькі разоў сфатаграфаваць адзін і той жа кавалак неба. І калі на здымках апынецца аб'ект, які паціху мяняе сваё становішча, то ён можа быць у тым ліку і каметай.

Такая сітуацыя і здарылася 21 верасня 2012, калі беларускі аматар астраноміі Віталь Неўскі і ягоны расійскі калега Арцём Навічонак працавалі ў Кіславодску на адным з невялікіх тэлескопаў сеткі ISON. Дарэчы, сама сетка тэлескопаў першапачаткова з'яўлялася праектам некалькіх апантаных аматараў астраноміі. А цяпер мноства тэлескопаў ISON ёсць па ўсім свеце і каманда з некалькіх дзесяткаў чалавек займаецца пошукам астэроідаў, камет і касмічнага смецця. І калі камп'ютарная праграма выдала спіс падазроных аб'ектаў на атрыманым здымку, адзін з іх адразу зацікавіў даследчыкаў. Параўнальна яркі аб'ект рухаўся занадта павольна для звычайнага астэроіда, выклікаючы падазронасць, што ён знаходзіцца нашмат далей ад нас. Праз дзень былі атрыманыя больш дакладныя дадзеныя і ў астраномаў не засталося сумневаў — гэта камета! А праз тры дні адкрыццё было пацверджана і Міжнародным астранамічным саюзам.



Віталь Неўскі падчас працы ў сваёй абсерваторыі.

### Што нам чакаць?

Калі б гэтае адкрыццё было зроблена на ўласным тэлескопе, то адкрыты аб'ект атрымаў бы імя «камета Неўскага—Навічонка», але паколькі яны працавалі ў рамках супольнага праекта, то ў выніку ў назву патрапіла толькі абрэвіятура ISON. Але самае цікавае чакала наперадзе: у каметы апынулася незвычайная арбіта. Калі яна патрапіць у найбліжэйшую да Сонца кропку сваёй траекторыі, адлегласць ад яе да гарачай паверхні нашага свяціла ненашмат будзе перавышаць радыус самога Сонца. З-за гэтага пачнецца актыўнае выпарэнне газаў, з'явіцца доўгі хвост, а бляск вырасце настолькі, што, па некаторых ацэнках, яна зможа быць бачная нават на дзённым небе!

Хвост такой каметы пры спрыяльных умовах можа расцягнуцца нават на чвэрць неба. Такое відовішча ўжо ўчыніла камета МакНота ў 2007 годзе. Але ўбачыць яго пашанцавала толькі жыхарам Паўднёвага паўшар'я. А вось «наша» камета якраз добра будзе бачная з тэрыторыі Беларусі.

Гэта, канечне, найбольш аптымістычныя прагнозы. Але пасля таго, як камета зблізіцца з Сонцам (а гэта адбудзецца 29 лістапада), яе можна будзе назіраць нават няўзброеным вокам. Адзінае, што можа перашкодзіць такому відовішчу — небяспека разбурэння каметы каля Сонца, бо на такой малой адлегласці яна будзе награвацца да вельмі высокіх тэмператур. У любым выпадку, большасць астраномаў называюць адкрытую беларусам «хвастатую зорку» самай чаканай нябеснай падзеяй 2013 года.

### Самы актыўны беларускі астраном

У Беларусі, на жаль, амаль цалкам адсутнічае прафесійная астраномія. Гэтая навука патрабуе значных грашовых укладанняў, а фінансавай карысці для народнай гаспадаркі наадварот не прыносіць, таму даследаваць Сусвет могуць дазволіць сабе толькі багатыя дзяржавы. Але частка даследаванняў трымаецца ў нас на заўзятых астраномах-аматарах, сярод якіх і Віталь Неўскі. Яшчэ дваццаць гадоў таму ён пабудаваў сваю невялікую абсерваторыю пад Віцебскам, дзе пастаянна назірае за начным небам. Нягледзячы на сціпласць абсталявання і адсутнасць спецыяльнай адукацыі, навуковыя вынікі працы беларускага энтузіяста ўражваюць: у свой час ён змог удакладніць памеры спадарожніка Сатурна, упершыню з тэрыторыі Беларусі адкрыў 15 астэроідаў (і яшчэ шмат у межах іншых праектаў), таксама ўпершыню ў нашай краіне адкрыў звышновую зорку ў адной з галактык. Нястомны астраном актыўна супрацоўнічае і з міжнароднымі навуковымі праектамі, сярод якіх і сетка тэлескопаў ISON, пры дапамозе якой і было зробленае адкрыццё каметы.




Такой камету C/2012 S1 убачыў тэлескоп «Хабл» тыдзень таму.

Дарэчы, два з адкрытых Віталем астэроідаў атрымалі назвы роднага горада Віцебска і любімага настаўніка астраноміі — У. А. Галубева.

### Беларусы адкрывалі каметы і раней

Трэба сказаць, што беларускія аматары астраноміі ўжо не першы раз трапляюць на галоўныя старонкі сродкаў масавай інфармацыі. Другі вядомы энтузіяст з-пад Оршы — Сяргей Шурпакоў — у 2011 адкрыў камету на здымках сонечнай кароны з касмічнага апарата SOHO. Здавалася б, нічога надзвычайнага не здарылася — менавіта аматары дапамагаюць адкрываць каметы на гэтых фота. Тым больш, адкрытая Сярегеем камета вельмі хутка сутыкнулася з Сонцам і загінула. Аднак адразу ў момант сутыкнення ў кароне нашага дзённага свяціла адбыўся магутны выкід рэчыва, ад чаго стварылася ўражанне, быццам гэта камета на паверхні выбухнула са страшнай сілай. Вядома, маленькае касмічнае цела памерам у некалькі кіламетраў не ў стане ўчыніць выбух сонечнага маштабу, але сусветныя СМІ актыўна падхапілі гэту навіну, указваючы ў сваіх публікацыях, што камета была адкрытая менавіта беларусам.

# «Чужыя» з прабіркі



**Якая пагроза ідзе ад кланавання чалавека і ствалавых клетак.**

Пачаткам гісторыі ствалавых клетак лічыцца 1908 год, калі расейскі гематолаг (доктар, які займаецца лекаваннем хваробаў крыві) Максімаў упершыню ўвёў тэрмін «ствалавая клетка». У 60-х гадах мінулага стагоддзя расейскія біёлагі А. Фрыдэнштэйн і І. Чарткоў выявілі ствалавыя клеткі ў касцявым мозгу, якія мелі ўнікальную здольнасць да аднаўлення. Аднак ацаніць сапраўдную значнасць гэтага адкрыцця чалавецтва здолела толькі амаль праз паўвеку.

Цікава, што «Кароткі расейска-беларускі фізіялагічны слоўнік» А. Стасевіча і С. Варыёцкага (Мінск: Тэхналогія, 1993) перакладае расейскі тэрмін «стволовая клетка» як «вуза-заснавальніца, растковая вуза».

Мільярды клетак растучага арганізму паходзяць усяго толькі з адной клеткі (зіготы), якая ўтвараецца ў выніку зліцця мужчынскай (сперматазоід) ды жаночай (яйцаклетка) палавых клетак (гаметаў). Гэтая адзіная клетка ўтрымлівае не толькі інфармацыю аб арганізме, але і схему яго паслядоўнага развіцця.

Дзякуючы сваёй здольнасці ператварацца ва ўсялякую тканку, ствалавыя клеткі могуць выкарыстоўвацца для лекавання велізарнай колькасці захворванняў. Аднак якой бы важнай ні была праблема эфектыўнай барацьбы з захворваннямі, здаецца, што не гэта распаліла жарсці ў грамадстве.

Адкуль узяць ствалавыя клеткі? Гэтых клетак у нашым арганізме вельмі мала: у эмбрыёна — 1 клетка на 10 тысяч, у чалавека ва ўзросце 60—80 гадоў — 1 клетка на 5—8 мільёнаў. І што значыць «узяць»? У асаблівасці, «узяць» у эмбрыёна? Няхай кожны сам дадумае «дэталі» ў меру сваёй адукаванасці ды абазнанасці.

І яшчэ адна праблема. Гэта — сакраментальнае слова «кланаванне». Жывыя істоты з прабоўкі (прабіркі) з загадзя закладзенымі ўласцівасцямі. Цалкам магчыма, што для абазнанага чалавека, для біёлага-навукоўцы гэтая думка бачыцца, прынамсі, смешнай альбо нават папросту бязглуздай. Аднак кланаванне жывых істотаў з закладзенымі ўласцівасцямі — гэта пытанне тэхналогіі і часу. Прынцыпова яно вырашанае. Кланаванне становіцца ў адзін шэраг з такімі глабальнымі паваротамі ў гісторыі чалавецтва, як карыстанне агнём альбо атамнай энергіяй. Гісторыя ведае нямала прыкладаў, калі вялікія вынаходніцтвы абарачаліся на знішчэнне людзей. Як гэта выглядае з кланаваннем? Тут, мабыць, няма патрэбы асабліва напружваць фантазію. Дастаткова прыгадаць дзясятак-другі галівудскіх фільмаў-жахаў.

Спяшаюся аднак запэўніць, што ні ў якім разе не хачу лямантаваць: «Усё прапала і Бобік здох! Хаваймася ў бульбу!»

Зразумела таксама, што кожны мне запярэчыць: «А на якое ліха тады панамалёўваў жахаў!?»

Згодзен. Панамалёўваў. Не дзеля таго, каб схаваць гэтае вынаходніцтва разам з яго аўтарамі ў жалезны куфэрак ды павесіць на дубе, што расце ў таемным месцы за мораміакіянам. Якія б грозныя табу хто ні накладваў на даследаванні ў кланаванні, усё роўна гэтыя даследаванні абавязкова, непазбежна ідуць. Будзе катэгарычная забарона — будуць падпольныя лабараторыі. Што там тады «зварацць» прафесары марыярцi ды мыш'яковічы — адзін Бог ведае. Афіцыйнае дзяржаўнае рэгуляванне — абсалютна неабходная ўмова. Але без падтрымкі грамадства яно праблему не вырашыць. Таму будзьма пільнымі!

Абавязкова яшчэ спатрэбяцца брусы ўіlісы, арнольды шварцнэгеры ды сільвестры сталонэ, каб ратаваць чарговым разам чалавецтва ад якога-небудзь прафесара-біёлага/генетыка, апантанага ідэяй ўсясветнага панавання.

**Пятро Прымшыц**

# Адзіная апазіцая — а навошта?

**Кот з сабакам у адным мяшку абавязкова пасварацца.**

Мы ўсе людзі, на якіх паўплывала дзяржаўная прапаганда. Я маю на ўвазе не тое, што мы ўсе прыхільнікі Лукашэнкі або ўхваляем усе ініцыятывы ўрада. Я маю на ўвазе іншае — прапаганда сфармавала ў нас адзіны з прапагандай погляд на свет.

Пасачыце, што такое для ўлады апазіцыя. Заўжды гэта «пятая калона», нейкі адзіны элемент. Адзіны ва ўсіх сэнсах. І праз гэтую прызму бачаць свет шмат беларусаў. Для іх не існуюць ні апазіцыйныя камуністы ці сацыялісты, невядомыя для іх АГП ды «Зялёныя». Уся апазіцыя для беларусаў — гэта адзіны механізм, які стаіць па іншы бок палітычных барыкад.

Улада для беларусаў — гэта сацыяльна-арыентаваная дзяржава, апазіцыя — ліберальная дзяржава, дзе ўсім будзе кіраваць рынак. Улада для беларусаў — гэта настальгія па савецкіх часах, апазіцыя — гэта штосьці звязанае з Еўрапейскім Саюзам і дэмакратыяй. Улада — гэта сённяшнія дзяржаўныя сімвалы, апазіцыя — гэта бел-чырвона-белы сцяг ды герб «Пагоня». Зразумела, што ўсё гэта не так. Апазіцыя ёсць розная, у ёй сустракаюцца розныя меркаванні наконт будучыні Беларусі.

А народ ўсё чакае з'яўлення іншай апазіцыі. Апазіцыі адзінай, якая радыкальна адрозніваецца ад улады. І ён не можа зразумець, напрыклад, складанасці абрання адзінага кандыдата. Яму зразумела, што калі ва ўладзе ёсць прэзідэнт, то, згодна з яго ўяўленнем, у «пятай калоны» павінен быць антыпрэзідэнт. Таму «невядомы апазіцыйны кандыдат» набірае на ўсіх апытаннях велізарную колькасць галасоў.

Нельга жыць марамі пра адзінага кандыдата. Значная частка насельніцтва, а таксама некаторыя палітычныя партыі не лічаць белчырвона-белы сцяг гістарычным сімвалам Беларусі. Але яны, як і я, лічаць сябе ў апазіцыі да ўлады. Не ўсе апазіцыйныя дзеячы падтрымліваюць курс неалібералізму, які прапануюць іншыя дзеячы апазіцыі. Некаторыя рэзка супраць гэтага, супраць рынкавага капіталізму і яго панавання ва ўсіх сферах жыцця.

На маю думку, апазіцыя павінна не прагнуць сваёй адзінасці, а наадварот, падкрэсліваць сваю розніцу. Даносіць да галоваў беларусаў, што АГП і БНФ, БНФ і БСДП, БСДП і «Справядлівы свет» ды іншыя — гэта розныя партыі, са сваімі рознымі ідэямі, са сваім асаблівым поглядам на будучыню Беларусі. Тады кожны будзе шукаць у вялізнай колькасці думак і арганізацый нешта сваё, што будзе для ўлады куды больш няручна, чым адзіная апазіцыя, таму што ўлада не можа даць кожнаму тое, што адпавядае яго думкам.

Калі кот з сабакам знаходзяцца у адным мяшку — яны пасварацца. Па-за межамі мяшка кот будзе лавіць мышэй, а сабака будзе вартаваць хату.

**Аляксей Мухавецкі**

# Беларуская глыбіня. **Сланцавы газ**

Піша **Павел Севярынец**.



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

*Але дух у чалавеку*
*І дыханне Усеўладнага*
*Дае яму разуменне.*
*Ёў 32:8*

– ...А яшчэ ў Беларусі ёсць сланца, — казалі нам выкладчыкі геалагічнага аддзялення геафаку, — шмат сланцаў. Паліць іх задорага, лепш рабіць процьму хіміі, але нікому гэта не трэба.

І вось мінае дзеяць гадоў, на свеце сінім полымем выбухае вялікая сланцавая рэвалюцыя, гугл шпурляе прэч *сланцы пляжныя* і выдае кожнаму жадаючаму беларусу: сланцы?... Ёсць!

У Беларусі — мільёны тон гаручых сланцаў, з якіх можна здабываць і газ, і сінтэтычную нафту, і смолы. Пласты магутнасцю да 2,7 м на глыбіні ад 50 да 375 м — ля Жыткавічаў, Турава, Светлагорска ў Прыпяцкім прагіне... І пад Белавежскай пушчай.

**Кожная свідравіна сланцавага газу — кропка апірышча энергетычнага суверэнітэту**

Якраз тут, ля самай заходняй кропкі Беларусі, нашыя нетры ўспорвае разлом Тэйсэйра—Торнквіста, гіганцкая тэктанічная расколіна ад Нарвегіі да Чорнага мора з мноствам гаручых скарбаў усярэдзіне. Тэрыторыя Пружанскага раёна пад Шарашовам (больш за тысячу квадратных кіламетраў) вылучаная як перспектыўная для разведкі сланцавага газу.

Сланцавы газ здабываюць, працінаючы пласт гарызантальным свідраваннем, закачваюць туды хімікаты — і бяры пампуй. З той пары як у пачатку 2000-х амерыканцы пачалі выраблець такія штукі ў прамысловых маштабах, ЗША выйшлі на 1-е месца ў свеце па здабычы газу, Еўропу ды Кітай ахапіў сланцавы бум, а Польшча ды Украіна ўжо свідруюць паўсюль з марай дацць газу ўсяму Старому свету. Сабекошт новых кубаметраў большы, чым традыцыйных. Але паколькі агульныя рэсурсы вычарпальныя, кошты паляцелі долу. Газпрам, а з ім і Крэмль запанікавалі. Тэхналогію маюць нямногія сусветныя карпарацыі, плаціць трэба мільярды, і пытанне, па вялікім рахунку, адно: яно таго вартае?

Вядома, працсей жыць на дурняк. Штоквартальна аддаваць Расеі за той прывідны, непрыемнага паху, туман усемагчымыя трубы, заводы, зямлю пад новыя вайсковыя базы, прылюдна выціраць ногі аб родную мову, каб *там* раптам не падумалі, быццам мы сабраліся абысціся сваім розумам, разбоўтваць мільёны тон растваральнікаў у папяровых справаздачах... А тут жа трэба ўкладвацца, грызці зямлю, выграбаць пахаванні з дна самае беларускае глыбіні.

Сланцавы газ з-пад Пружанаў — гэта абрысы буравых вышак на ўзгорыстых палях, геалагічныя базы, трубы, сховішчы. Свідравіны, кожная з якіх — кропка апірышча энергетычнага суверэнітэту. Сціжмы экалагаў, бо побач Пушча. Новая праца, вялікія грошы. Ударная хваля перасудаў, сварак і праблісках беларускіх позіркаў скоса: эт, век жа нічога тут не было, а бач ты, аказваецца, усё жыццё сядзелі на скарбах!

Пад нагамі ў беларусаў насамрэч бездань багацця. Трэцяе ў свеце радовішча калійнай солі, якое дае львіную долю валюты ў бюджэт. Агромністыя пласты солі белай, харчовай (наймацнейшы біблейскі сімвал!) — столькі, што можам усю Еўропу засыпаць паўтараметровым слоем. Вада, чыстая пітная вада, якой так не хапае мегаполісам і якая просіцца стаць нацыянальным брэндам. Будаўнічая сыравіна — адзін з найбагацейшых на кантыненце комплексаў, толькі будуй: разнастайныя гліны, шкляныя, сілікатныя і фармовачныя пяскі, гіпс, абліцовачны камень, жвір, крэйда ды мергель для вытворчасці цэменту і вапны... Найвялікшае ў рэгіёне радовішча будаўнічага каменю ў Мікашэвічах і даламіту для вапнавання кіслых глебаў у Рубе пад Віцебскам. Даўсаніт (сыравіна для атрымання пітной соды і алюмінію), фасфарыты на мінеральныя ўгнаенні, каалін, з якога робяць парцаляну, і якім адбельваюць паперу... А яшчэ глыбей — расолы з прамысловым утрыманнем калію, брому, ёду, цэзію, літыю, рубідзію — незаменных элементаў у вытворчасці тэлеапаратуры, камп'ютараў, магнітаў, люмінафораў ды лазераў. Россыпы тытану, цырконію, малібдэну...

Гэтак жа і ў нетрах беларускай душы — грандыёзныя намнажэнні закладзеных Богам цярплівасці, сціпласці, стрыманасці, ахвярнасці, пакорлівасці, служэння бліжняму, убогасці духу, вялікай любові... Пакуль яны ляжаць пластом, спрасаваныя ды забытыя, што тыя гаручыя сланцы — каб аднойчы, праз пакаянне, разрыў граху і высілкі волі паднялцца з глыбіняў, напоўніць дамы, расквітнець успышкай святасці ў тысячах і тысячах беларускіх сэрцаў.

Як падземныя сховішчы, схаваныя ў вантробах Беларусі, — звышпадмурак нашай незалежнасці, так і вобраз ды падабенства Божыя, стоеныя ў глыбокай беларускасці, — зарука той святасці, да якой пакліканае сённяшняе сцiснутае ў нетрах пакаленне.

Не зоймецца сланцамі, расоламі ды россыпамі Лукашэнка — рана ці позна давядзецца займацца нам. Але, у рэшце рэшт, што тое падземнае цяпло і полымя ў параўнанні са звышнатуральнай энергіяй неба!..

Менавіта гэтую крыніцу, невычарпальную, здольную вызваліць нас з рабства смярдзючага духа, хоча адкрыць у беларусах Бог.

*Куплін*

# «Снайпер» з Нясвіжа: Міхал Галянеўскі

Пра суперагента чатырох разведак, які абвесціў сябе пераемнікам расійскага трона, піша Дзмітры Гурневіч.

У жніўні 1945-га дзверы ў сядзібу Упраўлення бяспекі ў Зялёнай Гуры, на захадзе Польшчы, адчыніў высокі маладзён з блакітнымі вачыма. 23-гадовы Міхал, ураджэнец Нясвіжа, сын бухгалтара і хатняй гаспадыні, шукаў сабе працу ў польскай спецслужбе, аналагічнай савецкаму КГБ. Пры сабе ён меў навюткае пасведчанне члена Польскай рабочай партыі ды атэстат аб сканчэнні чатырох класаў гімназіі.

### Ад ахоўніка да начальніка контрвыведкі

Адукацыі было малавата, і Міхалу прапанавалі вакансію ахоўніка.

За наступны год акуратны і мэтаскіраваны маладзён зробіць кар'еру да намесніка старшыні Упраўлення. Начальства было ад Міхала ў захапленні. «Станоўчы, энергічны і з запалам, прыклад для іншых. Су'ёзны і разумны, яго паважаюць ва ўсім Упраўленні. Добра арыентуецца, хутка вучыцца. Умее захоўваць таямніцу, выклікае поўны давер», — адзначалася ў адным з сакрэтных рапартаў.

Інтэлект Галянеўскага заўважае кіраўніцтва. Яго пераводзяць у Познань і прызначаюць начальнікам упраўлення контрвыведкі, а ў 1953-м — накіроўваюць на працу ў цэнтральны апарат Міністэрства грамадскай бяспекі ў Варшаву.

### Спец па вярбоўцы

У 1956 годзе Галянеўскі абараняе ў Варшаве тытул магістра паліталогіі і пачынаецца яго зорны час. Ён становіцца кіраўніком аддзела І Дэпартамента МУС, які займаўся навукова-тэхнічным шпіянажам. Адказвае за стварэнне шпіёнскай сеткі ў Варшаве. Вярбуе дыпламатаў. Да 1960 года ў яго распараджэнні на Захадзе было 77 агентаў: За некалькі год яны рэалізавалі 400 заданняў.

Галянеўскі пачынае цікавіць савецкі КГБ. Ён становіцца даверанай асобай у структурах польскай разведкі. З многімі «маскоўскімі таварышамі» сябруе і наведвае модныя варшаўскія кабакі.

Масквічоў цікавяць афіцэры NATO, і Галянеўскі вярбуе марскога аташэ брытанскай амбасады ў Варшаве Гары Хоўтана, які меў доступ да кодаў Royal Navy. Цяпер Масква бачыць як на далоні брытанскі флот.



Выкрыты «Снайперам» савецкі шпіён Джордж Блэйк атрымаў 42 гады турмы, але здолеў уцячы і схавацца ў Расіі. Ён там жыве дагэтуль, нядаўна асабіста Пуцін віншаваў яго з 90-годдзем.

### «Снайпер»

Праца шпіёна захапляла Галянеўскага, была для яго стылем жыцця. Ён асабіста ўдзельнічаў у небяспечных замежных аперацыях. Падчас паездкі ў Берлін Галянеўскі вярбуе прыгожую немку Інгу Кампф. Гэтае знаёмства праз некалькі гадоў цалкам зменіць жыццё нашага героя...

У 1958-м у паштовую скрыню амерыканскага пасольства ў Швейцарыі трапіла ананімная пасылка, падпісаная Hackenschutz («Снайпер»), на імя кіраўніка ФБР Эдгара Гувера. «Снайпер» прапанаваў супрацоўніцтва. Станоўчым адказам на яго прапанову мусіла быць абвестка ў газеце Frankfurter Zeitung.

Каб пацвердзіць сур'ёзнасць намераў, «Снайпер» перадаў амерыканцам каардынаты аднаго з самых каштоўных савецкіх агентаў на Захадзе — Джорджа Блэйка з МІ6. Блэйк выдаў Маскве 42 заходніх агентаў ва Усходняй Еўропе і перадаў сакрэтную інфармацыю пра планаваны тунэль паміж Заходнім і Усходнім Берлінам.

Пасля таямнічы агент «Снайпер» перадаў амерыканцам дзве тысячы мікрафільмаў з сакрэтнай інфармацыяй і 5 тысяч старонак дакументаў пра савецкія спадарожнікі-шпіёны, агентаў СССР і ПНР на Захадзе.

Дзякуючы «Снайперу» ізраільская контрвыведка выявіла ў атачэнні прэм'ера Бэн-Гурыёна савецкага шпіёна Ісраэля Бэра. Ён аказаўся двайніком рэальнай асобы, якая даўно памерла.

«Снайпер» здаваў самых паспяховых савецкіх шпіёнаў: шведскага дыпламата ў Вашынгтоне Стыга Венерстрэма, супершпіёна Гордана Лансдэйла, Джона Васала, якога саветы завербавалі, шантажуючы здымкамі з гей-оргіі, якую КГБ сам і арганізаваў... Было арыштавана 14 шпегаў, а колькі яшчэ перавербавалі заходнія службы — можна толькі здагадвацца.





Галянеўскі ў часе працы ў польскіх спецслужбах (уверсе) і пасля.

### Уцёкі з Інгай

У 1960-м у Варшаву прыходзіць сакрэтны ліст ад шэфа Штазі. Ён паведамляе, што Міхал Галянеўскі сустракаецца ў Берліне з Інгай Кампф, і сустрэчы выходзяць за межы прафесійных абавязкаў.

Начальства выклікае Галянеўскага. Ён тлумачыць раман з немкай сямейнымі праблемамі. У жонкі Таццяны, якая падчас вайны была вязнем нямецкага канцлагера, развіваецца паранаідальная шызафрэнія. Галянеўскі просіць дазволу развесціся і перанесці дзейнасць у Берлін. Але кіраўніцтва і чуць не хоча пра гэта.

У той самы час аператыўная база ЦРУ ў Берліне атрымлівае ад «Снайпера» паведамленне. Агент плануе ўцёкі на Захад.

4 студзеня 1960 у Заходні Берлін былі перакінутыя дзве асобы. Мужчына прадстаўляецца падпалкоўнікам Міхалам Галянеўскім, аўтарам ананімных пасылак ад імя «Снайпера». Жанчына — Інга Кампф.

Падчас допытаў у Вашынгтоне «Снайпер» раскрывае месцазнахо-джанне чатырох тайнікоў у Варшаве. У іх амерыканцы знаходзяць яшчэ 300 сакрэтных дакументаў.

У польскіх спецслужбах — скандал. Варшаўскі вайсковы суд прысуджае Галянеўскага да кары смерцю за здраду. У картатэцы з'яўляецца запіс, што, уцякаючы ў Заходні Берлін, ён прыхапіў з сабою 20 тысяч марак. Як пазней высветлілася, Галянеўскі «круціў» грашыма з касы спецслужбаў.

Упраўленне бяспекі ПНР пачынае аперацыю «Тэлетэхнік» з мэтай выявіць і ліквідаваць Галянеўскага. Пад нагляд трапляе ўся яго сям'я, а сыну, рокмузыку, забараняюць выязджаць за мяжу.

### Сын цара

У 1964 ЦРУ, выкарыстаўшы «Снайпера», выпраўляе яго на пенсію. А праз пару месяцаў Галянеўскі звяртаецца ў суд у Гамбургу з просьбай пацвердзіць яго правы на спадчыну памерлых бацькоў — расейскага цара Мікалая ІІ і царыцы Аляксандры Фёдараўны Раманавых. Галянеўскі сцвярджае, што яго маці памерла ў 1924 у Варшаве, а бацька — у 1952 у Познані.

Ён агучвае непаўдападобную гісторыю: Якаў Юроўскі нібыта не расстраляў царскую сям'ю, а дапамог ёй уцячы. Бальшавіцкі кат быццам бы асабіста суправаджаў Раманавых да мяжы. Праз Грэцыю, Турцыю і Аўстрыю яны дабраліся да Варшавы.

Галянеўскі патрабаваў 400 тысяч даляраў, якія Мікалай ІІ быццам бы размясціў у амерыканскіх банках. Гамбургскі суд не стаў разглядаць заяву ў сувязі з адсутнасцю доказаў.

Галянеўскі разгортвае ў амерыканскіх СМІ кампанію і сцвярджае, што ён пераемнік расійскага трона. 30 верасня ў Нью-Ёркскай праваслаўнай катэдры адбываецца шлюб Галянеўскага-Раманава з Інгай Кампф. Праз дзве гадзіны пасля шлюбу ў маладых нараджаецца дачка Таццяна. Але ў хуткім часе цар-самазванец разрывае з Інгай.

У ЦРУ тым часам пачынаюць сумнявацца ў псіхічным здароўі Галянеўскага. Ён назваў савецкімі агентамі нават будучага дзяржсакратара ЗША Генры Кісінджэра і аятала Хамейні.

У 70-я гады Галянеўскі пачынае выдаваць у сябе дома штомесячны бюлетэнь пад назвай «Двухглавы арол», прысвечаны нацыянальнай незалежнасці і бяспецы ЗША, а таксама захаванню хрысціянскай цывілізацыі. Да смерці ў 1993-м ён бэсціць СССР і праваслаўную царкву, якая адмовілася прызнаваць яго «царом».

### Вар'яцтва ці хітрасць?

Паводле адной з версій, «тэатр з царом» прыдумала ЦРУ, каб ўратаваць Галянеўскага ад помсты камуністаў. З іншага боку, КГБ мог кантраляваць Галянеўскага і ў ЗША. Іначай адкуль ён мог валодаць такімі багатымі звесткамі пра савецкую агентуру? Навошта Масква давала б такую інфармацыю аднаму з дзясяткаў тысяч агентаў?

Версію пра «каўпак» КГБ пацвярджаў і былы начальнік Галянеўскага, палкоўнік Вітальд Сянкевіч: «Гэта была камбінацыя савецкай разведкі. Галянеўскі не быў большым вар'ятам, чым усе мы».

Калі Галянеўскі ў Амерыцы быў пад «каўпаком», праца ЦРУ была некалькі гадоў паралізаваная дэзынфармацыяй.

Яшчэ больш фантастычную версію давала радыё «Вольная Еўропа». Маўляў, у 50-я Галянеўскага выклікалі ў Маскву, адкуль ён не вярнуўся. А замест яго ў Варшаву быў высланы двайнік. У двайніка былі планы ўцёкаў на Захад, і спецслужбы вырашылі яго ліквідаваць. І толькі Галянеўскі №3 быў падкінуты амерыканцам...

Але Галянеўскі мог дзейнічаць і самастойна. Яго інтэлекту і кемлівасці хапіла б, каб абвесці вакол пальца выведкі па абодва бакі «жалезнай заслоны» і пры гэтым здзекавацца з зацятых удзельнікаў «халоднай вайны». Зрэшты, гэта пацвярджае і месца яго нараджэння — зямля, якая дала свету не аднаго авантурніка.

## ФУТБОЛ

### Беларусь – Фінляндыя

**11 чэрвеня на стадыёне «Цэнтральны»** ў Гомелі пройдзе адборачны матч да чэмпіяната свету па футболе. Сустракаюцца Беларусь і Фінляндыя. Пачатак а 20. Білеты – ад 70 да 180 тысяч.

### Тур 11

**30—31 мая** пройдуць матчы чарговага тура чэмпіянату краіны па футболе

**У чацвер** згуляюць:
«Нафтан» (Наваполацк) — «Дынама» (Брэст);
«Славія» (Мазыр) — «Белшына» (Бабруйск).

**У пятніцу:**
«Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — БАТЭ (Барысаў);
«Дынама» (Мінск) — «Нёман» (Гродна);
«Шахцёр» (Салігорск) — «Дняпро» (Магілёў);
«Гомель» — «Мінск».

## ІМПРЭЗЫ

### Ноч пажыральнікаў рэкламы

**1 чэрвеня а 22-й у Палацы Рэспублікі** — «Ноч пажыральнікаў рэкламы». У праграме як навінкі 2013 года з розных канцоў свету (ад Японіі да Мексікі), так і вінтажныя ролікі, убачыць якія дзе-небудзь яшчэ проста немагчыма.

### Джазавыя суботы ля Ратушы

**У тры суботы — 8-га, 15-га і 29-га чэрвеня а 19-й на плошчы Свабоды** пройдзе музычны праект «Джазавыя суботы ля Ратушы». **8 чэрвеня** вас чакаюць гурты Sachal Vasandani (ЗША), Apple Tea (Беларусь), Exultet Trio (Францыя) і Pur:Pur (Украіна). **15 чэрвеня** — Eddie Henderson (ЗША, Liptnitsky Show Orchestra (Беларусь), Three Fall (Германія). **29 чэрвеня** — Jaak Lutsoja group (Эстонія), дуэт Kekko Fornarelli і Roberto Cherillo (Італія) і трыа Канстанціна Гарачага (Беларусь).

## КАНЦЭРТЫ

### Sciana

**30 мая а 19-й у клубе Loft (П.Броўкі, 22)** — з сольным канцэртам выступае гурт Sciana. У вечарыне таксама возьме ўдзел «ар'ергарднае трыа» Tonqixod на чале з Уладзем Лянкевічам.

### Сімвалы веры і свабоды

**31 мая а 18-й на Управе БНФ** адбудзецца прэзентацыя дыска «Сімвалы веры і свабоды», прысвечанага нацыянальным сімвалам — бел-чырвона-беламу сцягу і гербу «Пагоня». Бяруць удзел Кася Камоцкая, Андрэй Мельнікаў, Эдуард Акулін, Ігар Сімбіроў, Уладзімір Някляеў, Вітаўт Мартыненка і іншыя.

### Didn't It Rain

**31 мая а 19-й у Палацы Рэспублікі** Х'ю Лоры выступіць з канцэртам у падтрымку свайго новага альбома Didn't It Rain.

### Бульбокс ROCK-PARTY

**6 чэрвеня а 20-й у TNT rock-клубе (Рэвалюцыйная, 9)** — «Бульбокс ROCK-PARTY». Вас чакаюць феерычная энергія гурту «Без панікі», душэўная рамантыка HandmadE і свежы, яркі рок ад «Нафта» (новы праект Уладзіміра Пугача «J:МОРС»).

## ВЫСТАВЫ

### Беларусь: у абдымках зорак

**Да 17 чэрвеня ў Мастацкім музеі** працуе фотавыстава Віктара Малышчыца «Беларусь: у абдымках зорак». Тэма начнога неба — новая і нечаканая ў беларускім фотамастацтве…






### Парад калысак

**2 чэрвеня ў Парку Горкага** пройдзе «Парад калысак». Пачатак а 16-й. Апроч уласна парада, будуць працаваць творчыя майстэрні, будуць ладзіцца конкурсы.



### Ралі старых аўтамабіляў

**У пяты раз праводзіцца ралі старадаўніх аўтамабіляў «Олдтаймер — Ралі МІНСК — 2013».** На гэты раз гонка пройдзе 1 чэрвеня па дарогах Мінска і ваколіц. Маршрут ралі трымаецца ў сакрэце, аднак вядомыя некаторыя падрабязнасці. Збор удзельнікаў плануецца а 9-й на Кастрычніцкай плошчы. Старт а 12-й. Фініш спаборніцтваў плануецца з 19.00 да 20.00 на скрыжаванні вуліц Рэвалюцыйнай і Камсамольскай.

### Партрэты ўладароў і магнатаў Вялікага Княства Літоўскага

**Да 26 жніўня ў Мастацкім музеі** працуе выстава «Партрэты ўладароў і магнатаў Вялікага Княства Літоўскага». Многія з партрэтаў Сапегаў, Тышкевічаў, Сангушак упершыню стануць вядомыя беларускім даследнікам.

### Стасіс Красаўскас

**Да 25 ліпеня ў Мастацкім музеі** працуе выстава графічных твораў народнага мастака Літоўскай ССР (1977) Стасіса Красаўскаса. С. Красаўскас працаваў у самых розных тэхніках (ксілаграфія, літаграфія, лінагравюра, афорт) і ствараў станкавыя гравюры, а таксама шматлікія ілюстрацыі да літаратурных твораў.

## ТЭАТР

### 30 мая

**Оперы і балета** — «Мадам Батэрфляй»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»

### 31 мая

**Беларускай драматургіі** — «Скрыпач на даху»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»
**Оперы і балета** — «Баядэрка»

### 1 чэрвеня

**Лялек** — «Піпі-Доўгаяпанчоха»

### 2 чэрвеня

**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»
**Оперы і балета** — «Баядэрка»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»

### 3 чэрвеня

**Оперы і балета** — «Турандот»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»

### 4 чэрвеня

**Оперы і балета** — «Турандот»
**Купалаўскі** — «Офіс»
**Купалаўскі** — «Востраў Сахалін»
**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі раю»

### 5 чэрвеня

**Оперы і балета** — «Тамар. Шахеразада»
**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Беларускай драматургіі** — «Містар Розыгрыш»

### 6 чэрвеня

**Оперы і балета** — «Травіята»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»

### 7 чэрвеня

**Оперы і балета** — «Тамар. Шахеразада»
**Беларускай драматургіі** — «Раскіданае гняздо»

### 8 чэрвеня

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

### 9 чэрвеня

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Оперы і балета** — «Тоска»

## КІНО

### На мяжы неверагоднага

«Фарсаж 6»
2013
**Жанр:** баявік, крымінальная драма
**Рэжысёр:** Джасцін Лін
**У ролях:** Він Дызель, Пол Уокер, Дуэйн Джонсан, Мішэль Радрыгес, Джарджана Брустэр, Тайрыз Гібсан.
ЗША, 130 хв.

Каманду стрытрэйсераў (вулічных гоншчыкаў) Дамініка Тарэты, раскіданую па свеце, улады не пакідаюць у спакоі. Гэтым разам прадстаўнік спецслужбаў Хобс прапануе ім паспаборнічаць у спрытнасці з небяспечнымі крымінальнікамі-наймітамі. Тыя хочуць узарваць бомбу, для якой шукаюць апошнюю дэталь недзе на базе НАТА ў Іспаніі. За паспяховае выкананне місіі Хобс абяцае амністыю ўсёй камандзе гоншчыкаў і вяртанне на радзіму. «Фарсажы» вядомыя граndыёзнымі пастановачнымі трукамі з машынамі, гонкамі на мяжы неверагоднага і жорсткімі бойкамі. Гэтая частка не стала выключэннем — аматарам крутога аўтамабільнага экшана спадабаецца. Акрамя таго прысутнічае і драматычная лінія: гераіня Мішэль Радрыгес страчвае памяць пасля выбуху і цяпер працуе на варожую каманду. А вось жарты, якімі сцэнарысты спрабуюць разбавіць агульны пафас і неверагодную сур'ёзнасць персанажаў, выглядаюць даволі блякла.

**Настасся Уласава**



# Пяць самых цікавых аўтамабіляў «Мотаршоу-2013»

«Мотаршоу-2013» на «Мінск-Арэне» больш нагадвала кірмаш з удзелам беларускіх аўтадылераў, чым выставу. Аднак былі на «Мотаршоу» і цікавосткі — аўтамабілі, якія проста так не сустрэнеш на вуліцах.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Ferrari 458 Italia**

Масцітага італьянскага жарабца на свой стэнд прывёз «БПС-Сбербанк». Ferrari 458 Italia пазіцыянавалі як «разынку» выставы, хоць гэта і не апошняя мадэль — яе выпускаюць з 2009. Да таго ж дакладна вядома, што адзін з такіх аўтамабіляў быў зарэгістраваны ў РБ і нават разбіўся нядаўна ад Заслаўя. Ferrari 458 з 4,5-літровым рухавіком развівае магутнасць у 570 конскіх сілаў і абыдзецца пакупніку ў 230 тысяч даляраў.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Audi R8 Spider**

Родстар з адкідным верхам ад нямецкага аўтавытворцы добра знаёмы беларусам паводле камп'ютарнай гульні Need For Speed. На такім самым аўтамабілі ездзіў і галоўны герой блокбастара «Жалезны чалавек» Тоні Старк. Audi R8 Spider з рухавіком V10 аб'ёмам 5,2 літра — як на выставе — будзе каштаваць не танней за Ferrari: каля 220 тысячаў даляраў.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Jaguar F-Type**

Яшчэ адзін свежы спорткар «Мотаршоу» прыбыў з Туманнага Альбіёна. JaguarF-type — мадэль, якая яшчэ не паступіла ў продаж нават на радзіме. Двухмясцовы родстар з адкідным дахам, вытанчаным дызайнам і пачатковай цаной 60 тысячаў фунтаў так і прыцягвае цікаўныя позіркі.




**Maserati Quattroporte**

Чатырохдзверны седан шостага пакалення ад італьянскага вытворцы суперкараў. Рухавік аб'ёмам 3,8 літра. Развівае магутнасць у 530 конскіх сілаў і разганяе «сямейны» спорткар да 100 км/г за 4,7 секунды. Цана на Maserati Quattroporte складае каля 150 тысячаў даляраў.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Volvo V40 Cross Country**

На «Мотаршоу» адбылася беларуская прэм'ера невялікага красевера, проста нашпігаванага функцыямі. Volvo паслядоўна працягвае ствараць надзейныя і адны з самых бяспечных аўто ў свеце. І хоць V40 — зусім не суперкар, падчас яго стварэння былі выкарыстаны самыя перадавыя тэхналогіі. Напрыклад, першая ў свеце падушка бяспекі для пешаходаў пачала ўсталёўвацца менавіта на V40. Яна разгортваецца пры сутыкненні з пешаходам на хуткасці да 50 км/г. Цана — 34 тысячы еўра.

Падрыхтаваў Кірыла Хілько

# Пяць міфаў пра камароў

Маскіты з'явіліся больш за 175 мільёнаў гадоў таму, так што ад іх, напэўна, пакутавалі нават дыназаўры. Людзі настолькі доўга змагаюцца з камарамі, што за гэты час нарадзілася шмат міфаў. Вось самыя распаўсюджаныя з іх:

### 1. Камары жывуць адзін дзень (няпраўда).

У розных відаў крывасмокаў розная працягласць жыцця. Самцы камароў у сярэднім жывуць 2—3 тыдні, самкі — 2—3 месяцы, а самкі малярыйнай камароў сыходзяць у дыяпаўзу ў канцы лета і дажываюць да вясны.

### 2. Камар, які пакусаў хворага на СНІД чалавека, можа распаўсюджваць хваробу (няпраўда).

Не, бо гэты вірус гіне ў стрававальнай сістэме камароў.

### 3. Камары баяцца дыму (часткова праўда).

Для камароў ён вельмі непрыемны, бо яны таксама дыхаюць паветрам. Але поўнасцю вызваліць ад камароў дапаможа толькі вялікая задымленасць.

### 4. Ультрагукавыя сродкі дапамогуць адпалохаць камароў (няпраўда).

Праверыць гэта можна і самому: дастаткова спампаваць у інтэрнэце спецыяльную аплікацыю. Але камароў не пужаюць такія гукі, хутчэй, гаспадар дома забяспечыць сабе бяссонную ноч.

### 5. Камар кусае толькі адзін раз, а пасля — памірае (няпраўда).

Не, бо гэта ж не пчала. Але самец камара чалавеку не вораг, бо ён харчуецца нектарам. А кроў п'юць толькі самкі. Зрэшты, яны таксама могуць перайсці на сок кветак, калі няма дзе ўзяць крою, толькі ў гэтым выпадку адкладці яйкі самкі не змогуць.

Сёлета камароў і машкары сапраўды шмат, зазначае энтамолаг Святлана Яшкоўская. Гэтаму спрыяюць высокая паводка і дажджысты май.

«Сезон актыўнасці камароў пачынаецца вясной, калі тэмпература ўздымаецца вышэй за 8—10 градусаў, — расказвае Святлана Яшкоўская. — Калі моцна пакусаюць, акрамя ацёкаў, запалення і свербу, можа ўзнікнуць інтаксікацыя арганізма. Гэта вядзе да агульнай слабасці, павышэння тэмпературы, праблем сардэчнай дзейнасці».

Спецыялісты раяць прамываць месца ўкусаў растворам соды. Калі ахвяры камароў пагоршала, трэба тэрмінова звярнуцца да доктара.

**Настасся Храловіч**



**Як змагацца з камарамі**

- Выкарыстоўвайце рэпеленты.
- Абірайце для адпачынку на прыродзе светлыя месцы.
- Не пакідайце адчыненымі вокны і дзверы, у вокны ўсталёўвайце ахоўныя сеткі.
- Чым менш вады вакол хаты (бочкі, калюжыны і г.д.), тым менш камароў.
- Пры пранікненні ў жыллё выкарыстоўвайце электрафумігатары для барацьбы з насякомымі, дым ад ядлоўца ці валяр'янавага караня.

**Цікавыя факты**

- 1 200 000 камароў дастаткова, каб выпіць з чалавека ўсю кроў. Гэта, вядома, тэарэтычны разлік, бо да гэтага чалавек памрэ ад раздражнення і болевага шоку.
- Самы вялікі помнік камару размешчаны ў мястэчку Камарна, Канада. Сталёвая статуя зробленая ў 1984 годзе і мае размах крылаў 5 метраў.
- Камары валодаюць унікальнай здольнасцю лавіраваць паміж кроплямі дажджу і заставацца сухімі на працягу 5 хвілін.
- Побач з намі жывуць сапраўдныя пярэваратні. Мяркуйце самі: паводле даследаванняў, у поўню актыўнасць камароў узрастае на 500%.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Мінск» перамог у Кубку Беларусі па футболе. У фінальным паядынку каманда Мінгарвыканкама выйграла па пенальці ў сталічнага «Дынама». Героем гульні стаў абаронца Сяргей Сасноўскі (на фота). Ён не толькі забіў гол галавой, але і працягваў самаадданa гуляць пасля таго, як румын Косцін Курэля рассек яму брыво. Нездарма ў Сасноўскага мянушка Ваяр.**



**25 тысяч хасідаў (плынь у юдаізме) сабраліся ў Ерусаліме на вяселлі 18-гадовага рабіна Шалом Рокаха з 19-гадовай Ханe Бацы Пенар. Шалом Роках — унук пятага раві дынастыі Бельцы, галавы хасідаў.**



НАСТАССЯ ХРАЛОВІЧ

**На фестывалі фаер-шоу ў Мінску ўдзельнікі адпальвалі нягледзячы на дождж.**




**У Горках дзіцячы парк удзень зачыняюць на абед.**

## Анекдоты і жарты

* * *

Купіла сабе завушніцы ў выглядзе камароў. Сёння ўжо два разы ад сяброў па вуху атрымала...

* * *

У выпадку пажару пакіньце памяшканне да таго, як напішаце пра здарэнне ў Фэйсбук.

* * *

— Алё... Каханы, ты з чым бульбачку будзеш на вячэру?

— З мясам...

— Я як ведала... Ужо купіла чыпсы з беконам.

* * *

Калі мужчына застаецца дома адзін, яго халадзільнік набірае да 150 праглядаў за вечар.

* * *

Дачка загадчыцы сталоўкі з самага дзяцінства ведае, дзе адбудзецца яе вяселле.

* * *

Праграміст, які на працы сядзіць без справы 10 хвілін, аўтаматычна пераходзіць у спячы рэжым.

* * *

Выкладчык у ВНУ:

— Калі я вам пастаўлю гэты залік, вы ўрэшце атрымаеце дыплом і станеце інжынерамі. Калі не пастаўлю — вы пойдзеце ў войска і будзеце мяне абараняць. Нават не ведаю, што горш...

* * *

— Алё, паліклініка? Ці магу я запісацца на прыём да доктара?

— Можаце, але ў нас чарга на месяц наперад.

— А адкуль гэтыя людзі ведаюць, чым яны будуць хварэць праз месяц?

## «НН» сто гадоў з вамі

**Мінск.** Новапрызначаны ў Мінск вікарны епіскап Феафілакт (былы таганрогскі) зрабіў сярод грамадзянства і духавенства карыснае ўражанне сваёй прастатой у стасунках з людзьмі. Феафілакт — адзін з тых пяці саўсім выкшталтаваных епіскапаў у Расеі, каторыя да духоўнай акадэміі прайшлі поўны курс універсітэцкіх навук.

**«НН». №21. 1913.**

**Коласа гоняць з ліцэя Коласа.** У Нацыянальным дзяржаўным гуманітарным ліцэі імя Якуба Коласа сумятня. 28 мая намеснік міністра адукацыі Казімір Фарыно прадставіў выкладчыкам новую дырэктарку — Тамару Шчарбачэвіч. Стваральнік і нязменны кіраўнік ліцэя Уладзімір Колас можа пакінуць навучальную ўстанову.

**«НН». №20. 2003.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8005. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 28.05.2013.
Замова №2303.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
ISSN 1819-1614

Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12